ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 5 (2584)
4 лютага 1972 г.
ПЯТНІЦА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Мы ганарымся Мінскім аўтамабільным заводам. Нарадзіўшыся на пустцы пад Мінскам у цяжкія пасляваенныя гады, ён хутка зрабіўся адным з буйнейшых прадпрыемстваў краіны. Яго аўтамабілі можна сустрэць бадай што на ўсіх дарогах свету. Гісторыі завода, яго выдатным працаўнікам прысвяцілі новую стужку «Справа жыцця» дакументалісты Беларускага тэлебачання. «У прынцыпе няважна, што ствараеш — тэорыю адноснасці, «Яўгенія Анегіна» ці аўтамабіль. Галоўнае ствараць. І ў гэтым я бачу сэнс жыцця. У гэтым я бачу шчасце». Гэтыя словы маладога рабочага вызначаюць сэнс фільма, рэцэнзію на які вы можаце прачытаць на 8-й старонцы.

На здымку — кадр з фільма «Справа жыцця». Дырэктар завода І. Дзёмін сярод рабочых.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

# УДЗЯЧНАСЦЬ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ,

**БЕЛАРУСЬ РЫХТУЕЦЦА ШЫРОКА АДЗНАЧЫЦЬ 90-ГОДДЗЕ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯНКІ КУПАЛЫ І ЯКУБА КОЛАСА**

*Гутарка з намеснікам Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. СНЯЖКОВАЙ.*

# УДЗЯЧНАСЦЬ НАШЧАДКАЎ

ІМЁНЫ народных пісьменнікаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа шырока вядомы ў нашай краіне і па-за яе межамі. Вялікія мастакі слова, натхнёныя песняры новай сацыялістычнай явы, барацьбіты за мір і дружбу народаў, яны заслужылі ў народзе вечную любоў і пашану.

Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» папрасіла старшыню рэспубліканскіх юбілейных камітэтаў па правядзенні 90-годдзя з дня нараджэння выдатных нацыянальных паэтаў Я. Купалы і Я. Коласа, намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкову расказаць, як грамадскасць рэспублікі рыхтуецца адзначыць гэтыя слаўныя даты. У гутарцы з нашым карэспандэнтам Ніна Лявонаўна сказала:

— Падрыхтоўка да юбілею нашых народных песняроў праходзіць пад знакам шырокай папулярызацыі творчай спадчыны Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гэта — і выданне новых збораў твораў пісьменнікаў, і стварэнне навукова-папулярных фільмаў аб жыцці і творчасці заснавальнікаў беларускай савецкай літаратуры, і новыя тэатральныя і тэлевізійныя пастаноўкі, і новае прачытанне іх твораў сродкамі музыкі, і больш змястоўнае, з улікам патрабаванняў сучасных навучальных праграм, вывучэнне іх твораў у школе.

Падрыхтоўка да юбілеяў пачалася ўжо. У нашых часопісах і газетах паявіліся спецыяльныя рубрыкі, прысвечаныя купалаўскай і коласаўскай гадавінам, слова Я. Купалы і Я. Коласа і слова пра іх жыццё і творчасць усё часцей гучыць па радыё, паўсюдна праводзяцца літаратурныя вечары, канферэнцыі чытачоў, сустрэчы, ажывілі работу літаратурныя музеі песняроў.

У рэспубліцы, як вядома, створаны юбілейныя камітэты па правядзенні 90-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа. На пасяджэннях камітэтаў распрацавана шырокае кола мерапрыемстваў, якія павінны быць праведзены ў азнаменаванне гэтых слаўных гадавін. Толькі адзін іх пералік красамоўна гаворыць аб тым, што падрыхтоўцы да юбілеяў аддаецца вялікая і ўсебаковая ўвага.

Пачну з таго, што ў дні нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа, гэта значыць, 7 ліпеня і 3 лістапада ў сталіцы рэспублікі будуць праведзены ўрачыстыя пасяджэнні. Вечары, прысвечаныя народным песнярам, пройдуць у абласных і раённых цэнтрах, у школах і навучальных установах, у дамах культуры, на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах, воінскіх часцях. У гэтыя ж дні Акадэмія навук рэспублікі і яе адзяленне грамадскіх навук правядуць спецыяльныя навуковыя сесіі з удзелам выкладчыкаў нашых універсітэтаў і педагагічных інстытутаў.

Тут жа хочацца сказаць і пра святы паэзіі, якія мяркуецца правесці ў дні нараджэння Купалы і Коласа на іх радзіме — у Вязынцы і ў Мікалаеўшчыне. Да гэтых свят выдавецтва «Беларусь» павінна выпусціць свой чарговы — у гэтым годзе спецыяльны коласаўска-купалаўскі зборнік «Дзень паэзіі», прысвечаны юбілеям народных паэтаў Беларусі. Мяркуецца, што ў святах паэзіі прымуць удзел не толькі беларускія паэты, але і майстры паэтычнага слова з братніх саюзных рэспублік.

— Ніна Лявонаўна, у пачатку вы гаварылі пра новыя выданні збораў твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Што маецца на ўвазе канкрэтна?

— Ужо ў гэтым, юбілейным годзе падпісчыкі атрымаюць першыя кнігі 14-томнага збору твораў Якуба Коласа і 7-томнага збору твораў Янкі Купалы. Выданне першага ажыццяўляе выдавецтва «Беларусь», а другога — выдавецтва «Навука і тэхніка». Гэта будуць найбольш поўныя, навукова-вывераныя выданні спадчыны нашых выдатных пісьменнікаў. Акрамя таго, выйдуць у свет і паасобныя кнігі Я. Купалы і Я. Коласа ў так званым падарункавым афармленні. Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па друку рыхтуе таксама выданне юбілейнага альбома-альманаха, прысвечанага песнярам. Што яшчэ? Вядзецца работа па перакладзе твораў нашых класікаў на мову народаў іншых братніх рэспублік. На пасяджэнні Савета па беларускай літаратуры пры Саюзе пісьменнікаў СССР, якое адбылося напярэдадні новага года ў Маскве, вынесены прапановы па выданні кніг Я. Купалы і Я. Коласа, якое будзе ажыццёўлена выдавецтвам «Мастацкая літаратура».

— Нашы чытачы, Ніна Лявонаўна, хацелі б ведаць, як ідзе работа па стварэнні помнікаў Янку Купалу і Якубу Коласу і наогул, што робіцца ў гэтым кірунку ўшанавання іх памяці?

— Гэтаму пытанню ў плане святочных мерапрыемстваў надаецца, бадай, найбольшая ўвага. І не толькі таму, што пытанне гэтае надзвычай важнае, але і таму, што яно складанае і працаёмкае. Работа над помнікамі вядзецца даволі актыўна. Над помнікам Якубу Коласу працуе група скульптараў і архітэктараў на чале з народным мастаком рэспублікі З. Азгурам, над помнікам Янку Купалу—на чале са скульптарам А. Анікейчыкам. Праекты помнікаў ухвалены спецыялістамі і грамадскасцю і да юбілеяў народных паэтаў манументы будуць устаноўлены. Акрамя гэтага, мяркуецца завяршыць рэстаўрацыю дома-музея Я. Купалы ў Вязынцы і стварыць там купалаўскі мемарыяльны запаведнік. Мемарыяльным стане кабінет Я. Коласа ў Акадэміі навук, дзе ён працаваў, будучы віцэ-прэзідэнтам АН БССР. Да юбілею ў Мікалаеўшчыне будуць створаны запаведныя зоны вакол Мікалаеўшчыны і леснічоўкі Ласток. Папоўняцца да гадавіны і экспазіцыі літаратурных музеяў песняроў. Тут жа дадам, што ў памятных купалаўскіх і коласаўскіх мясцінах устанаўліваюцца новыя мемарыяльныя знакі, прысвечаныя песнярам.

Варта сказаць і аб тым, што беларускія кінематографісты выпусцяць да юбілеяў поўнаметражны дакументальны фільм пра жыццё і творчую дзейнасць Янкі Купалы і дакументальны фільм пра Якуба Коласа, прафесійныя і народныя тэатры пакажуць спектаклі па творах юбіляраў, будзе выпушчаны зборнік вакальных твораў беларускіх кампазітараў на словы народных паэтаў, а таксама пласцінкі з запісам іх галасоў і з запісам іх твораў у выкананні вядомых нашых артыстаў. У дні юбілеяў будзе праведзена рэспубліканская мастацкая выстаўка, прысвечаная жыццю і творчасці песняроў, ва ўстановах культуры, на прадпрыемствах, у навучальных установах будуць арганізаваны фота- і кніжныя выстаўкі.

— Ніна Лявонаўна, які ўдзел у правядзенні юбілейных урачыстасцей прыме шматлікая армія ўдзельнікаў самадзейнага мастацтва?

— Самы шырокі. Міністэрства культуры рэспублікі і Рэспубліканскі савет прафесійных саюзаў сумесна з Беларускім тэатральным аб'яднаннем, ЦК ЛКСМБ і Саюзам пісьменнікаў Беларусі правядуць у гэтым годзе рэспубліканскі конкурс самадзейных чытальнікаў на лепшае выкананне твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Само сабой зразумела, што ў рэпертуары канцэртаў самадзейных спевакоў сёлетняга года значнае месца зоймуць песні і рамансы на словы народных паэтаў. У падрыхтоўцы да юбілеяў прымуць удзел і школы рэспублікі. У гэтым навучальным годзе прадугледжана правядзенне рэспубліканскага конкурсу на лепшае школьнае сачыненне па творах Я. Купалы і Я. Коласа.

Я ўжо гаварыла, што паўсюдна ў рэспубліцы будуць праведзены юбілейныя вечары і сустрэчы. У іх самы шырокі ўдзел прымуць беларускія пісьменнікі: пісьменніцкія брыгады разам з супрацоўнікамі літаратурных музеяў Я. Купалы і Я. Коласа пабываюць сёлета ва ўсіх абласцях рэспублікі, у многіх калгасах і саўгасах, на заводах і фабрыках, ва ўстановах і ў арганізацыях.

Асаблівая ўвага будзе звернута на правядзенне гэтай работы ў тых калектывах, якія носяць імёны Я. Купалы і Я Коласа.

Рада паведаміць чытачам газеты, што Міністэрствам марскога флоту прынята наша прапанова аб прысваенні двум караблям імёнаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Караблі гэтыя ўжо будуюцца і неўзабаве выйдуць на марскія прасторы.

І апошняе. Удзельнікі юбілейных коласаўскіх і купалаўскіх урачыстасцей змогуць набыць памятныя сувеніры, прысвечаныя 90-годдзю з дня нараджэння заснавальнікаў новай беларускай літаратуры.

Я адплаціў народу,
Чым моц мая магла:
Зваў з путаў на свабоду,
Зваў з цемры да святла, —

пісаў калісьці Янка Купала. «Ад роднае зямлі, ад гоману бароў...», — гаварыў Якуб Колас, вызначаючы вытокі свайго таленту. Паэт і народ, народ і паэт. Зайздросны лёс мастака, які ўвасобіў у сваёй творчасці думы і спадзяванні народныя, які ўвесь свой талент аддаў справе дабра, асветы, і ўзвышэння роднага народа. І ўдзячны народ у сваю чаргу плоціць яму, мастаку, шчырай пашанай і любоўю. Гэта з поўным правам можна дастасаваць да Янкі Купалы і Якуба Коласа, якія невымерна шмат зрабілі дзеля таго, каб беларускі народ заняў «свой пачэсны пасад між народамі», і чыё слова будзе вечна жыць у народзе.



Гэты фотаздымак зроблены ў сценах Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчым мастацтве, дзе днямі адбыўся вечар, прысвечаны памяці Янкі Купалы, надыходзячаму 90-годдзю з дня яго нараджэння.

У госці да выхаванцаў школы прыйшлі вядомыя нашы пісьменнікі, кампазітары, мастакі, спевакі, музыканты. Юныя таленты паказалі ім літаратурна-музычную кампазіцыю, прысвечаную жыццю і творчасці народнага песняра. У кампазіцыі гучалі вершы Янкі Купалы і песні, створаныя на яго словы. Пра вялікага Янку Купалу, пра яго аблічча паэта і чалавека гаварылі на вечары народны артыст СССР Р. Шырма, пісьменнікі І. Шамякін. У. Юрэвіч, М. Аўрамчык. «Купалаўскія песні «Шумныя бярозы», «Нашто бабе агарод», «Ты прыйдзі ка мне вясною». «Маё сонца» праспявалі народны артыст БССР Л. Бражнік і заслужаны артыст рэспублікі В. Кірычэнка. Пляменнік Я. Купалы мастак Я. Раманоўскі падараваў выхаванцам школы напісаны ім партрэт паэта.

Фота Ул КРУКА.

# УДЗЕЛЬНІЧАЙЦЕ Ў КОНКУРСАХ!

*У мэтах стварэння значных твораў кінамастацтва пра рабочы клас Прэзідыум ВЦСПС, Камітэт па кінематаграфіі пры Савеце Міністраў СССР, Сакратарыят праўлення Саюза кінематаграфістаў СССР, і Сакратарыят праўлення Саюза пісьменнікаў СССР прынялі пастанову аб правядзенні конкурсу на лепшы сцэнарый мастацкага фільма аб жыцці і працы сучаснага савецкага рабочага класа — з 15 лістапада 1971 па 15 верасня 1972 года.*

*Прызначаны наступныя прэміі ВЦСПС за лепшыя кінасцэнарыі:*

*адна першая прэмія— 5000 рублёў;*

*тры другія прэміі —па 2500 рублёў кожная;*

*чатыры трэція прэміі—па 1500 рублёў кожная;*

*пяць заахвочвальных прэмій — па 1000 рублёў кожная.*

*Конкурс мае на мэце стварэнне высокамастацкіх і значных па тэме кінасцэнарыяў аб жыцці і працы рабочага класа на сучасным этапе камуністычнага будаўніцтва.*

*Кінасцэнарыі, прадстаўленыя на конкурс, павінны быць асновай для стварэння ў фільмах вобраза нашага сучасніка—чалавека, выхаванага партыяй на рэвалюцыйных і працоўных традыцыях рабочага класа.*

*Сцэнарыі могуць быць прысвечаны тэмам міжнароднага рабочага руху і пралетарскага інтэрнацыяналізму.*

*Конкурс не абмяжоўвае аўтараў у выбары жанру для сваіх твораў.*

*Дата адпраўлення рукапісу на штампе паштовага аддзялення павінна быць не пазней, чым 5 верасня 1972 года.*

*Рукапісы дасылаюцца на адрас:*

*г. Масква, Мал. Гнезднікоўскі зав., 7, Камітэт па кінематаграфіі пры Савеце Міністраў СССР, «Конкурс на лепшы сцэнарый пра рабочы клас».*

□

*Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні вырашыў правесці ў 1972 годзе тэлевізійны і радыёконкурс «Саюз непарушны рэспублік свабодных».*

*На конкурс могуць быць прысланы сцэнарыі мастацкіх і дакументальных тэлевізійных фільмаў і спектакляў, радыёп'есы, інсцэніроўкі, тэлевізійныя і радыёнарысы, радыёкампазіцыі, рэпартажы, апавяданні, інтэрв'ю, інфармацыі, а таксама музычныя навелы і песні (тэксты і музыка).*

*За лепшыя творы, якія з найбольшай пераканаўчасцю раскрываюць тэму стваральнай працы, творчы пошук савецкіх людзей, багацце духоўнага свету чалавека Краіны Саветаў — нашага сучасніка, месца і ролю Савецкай Беларусі ў сям'і брацкіх народаў, акрамя ганарару, устаноўлены 72 прэміі ў размеры ад 10 да 800 рублёў кожная.*

*Матэрыялы на конкурс прымаюцца Беларускім тэлебачаннем і радыёвяшчаннем да лістапада 1972 года, а вынікі яго будуць падведзены напярэдадні 50-годдзя ўтварэння СССР — у снежні.*

*Умовы конкурсу і размеры прэмій па кожнаму жанру апублікаваны ў штотыднёвіку «Беларускае тэлебачанне і радыё» за 29 студзеня 1972 года.*

□

*У патрыятычным выхаванні савецкіх людзей надзвычай важна шырока папулярызаваць помнікі рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы нашага народа, пашыраць навуковыя веды пра іх. Прэзідыум цэнтральнага савета Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры і праўленне Саюза журналістаў БССР аб'явілі конкурс на лепшае асвятленне ў друку, па радыё і тэлебачанні пытанняў аховы і прапаганды помнікаў.*

*У ім прымаюць удзел рэдакцыі раённых, гарадскіх, абласных і рэспубліканскіх газет і часопісаў, радыёкамітэты і студыі тэлебачання.*

*Асноўнае патрабаванне да конкурсных матэрыялаў — прапаганда вопыту работы па выяўленні і ахове помнікаў, папулярызацыя важнейшых помнікаў, якія адлюстроўваюць гераічную гісторыю, рэвалюцыйныя традыцыі, культуру, навуку, мастацтва і архітэктуру беларускага народа, яго дружбу з вялікім рускім і іншымі братнімі народамі нашай Радзімы.*

*Пераможцы конкурсу будуць узнагароджаны дыпломамі і грашовымі прэміямі. Зацверджаны чатыры першыя прэміі па 300 рублёў кожная, шэсць другіх — па 200 руб. і восем трэціх прэмій па 100 рублёў.*

# РЭЖЫСУРА: ЯЕ СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ,

*РЭСПУБЛІКАНСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ РЭЖЫСЕРАЎ*

НА ГЭТЫ своеасаблівы творчы форум з'ехаліся ўсе тэатральныя рэжысёры рэспублікі.

Адкрываючы канферэнцыю, міністр культуры БССР **Ю. Міхневіч** сказаў, што і на цяперашнім этапе першым абавязкам мастакоў з'яўляецца абавязак прынцыпова і ўсебакова асвятляць жыццё, адлюстроўваць у спектаклях важнейшыя праблемы часу, змагацца за высокі ідэйна-эстэтычны ўзровень тэатральнага мастацтва.

Галоўны рэжысёр Дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа **С. Казіміроўскі** спыніўся на адным з найбольш важных пытанняў, якія хвалююць рэжысуру, — задума спектакля і яе ўвасабленне.

— Мы перажываем зараз вельмі знамянальны для тэатральнага мастацтва час,— сказаў ён. — Яшчэ нядаўна ішла гаворка пра выцясненне тэатра кінематографам і тэлебачаннем. Але магічнае мастацтва жывога акцёра па-ранейшаму захапляе людзей. Глядач зноў актыўна пайшоў у тэатр. І ў гэтым, на маю думку, у першую чаргу, заслуга рэжысёраў — мысліцеляў, эксперыментатараў, мастакоў.

Цяпер у рэжысуру ўліліся маладыя сілы. Да іх трэба ставіцца з большым даверам. Прамоўца выказаў пажаданне, каб рэпертуарна-рэдакцыйная калегія, з самай высокай патрабавальнасцю, прымаючы гатовыя спектаклі, давала тэатрам шырэйшыя магчымасці для выбару рэпертуару, бо рэжысёр можа сапраўды поўна раскрыцца толькі ў спектаклі, пастаўленым па п'есе, блізкай яго творчай індывідуальнасці. Дарэчы, тады б і афішы тэатраў выглядалі б больш разнастайнымі.

С. Казіміроўскі лічыць няправільным патрабаванне да тэатраў, каб яны на кожную ролю прызначалі абавязкова не менш двух выканаўцаў і раўнамерна загружалі ўсіх акцёраў. Гэта асабліва непрымальна ва ўмовах абласнога горада, дзе на падрыхтоўку кожнага спектакля выпадае мала часу, і ўдзяліць аднолькавую ўвагу двум акцёрам — значыць не ўдзяліць увагі нікому з іх. Што ж датычыць раўнамернай загрузкі, то тут немагчыма не ўлічваць жаданняў гледача, які заўсёды хоча бачыць у спектаклі сваіх любімых акцёраў.

І яшчэ адну тэму закрануў у сваім выступленні С. Казіміроўскі — вернасць рэжысёра драматургу і драматурга рэжысёру.

— Аднолькава нетактоўным здаецца мне, калі рэжысёр, сам абраўшы п'есу, раптам траціць да яе цікавасць (так здарылася ў нашым тэатры з рэжысёрам У. Забелам, які ставіў «Свой востраў» Р. Каўгвера), і калі драматург ганьбіць рэжысёра, якому нядаўна дзякаваў, а зараз лічыць адзіным віноўнікам няўдачы спектакля (я маю на ўвазе словы А. Маўзона ў газеце «Літаратура і мастацтва» пра спектакль «Дарога праз ноч» рэжысёра Б. Ганагі).

Рэжысёр — ідэйны кіраўнік і выхавальнік творчага калектыву. Пра гэта гаварыў у сваім выступленні галоўны рэжысёр Гомельскага абласнога драматычнага тэатра **І. Папоў.** Згаджаючыся з папярэднім прамоўцам, што рэжысура вызначае аблічча тэатра, І. Папоў падкрэсліў надзвычай важную ролю акцёра, ад якога ў канчатковым выніку залежыць увасабленне задумы спектакля. Нават самаму таленавітаму акцёру трэба ўвесь час удасканальваць сваё майстэрства, гаворыць прамоўца. Толькі тады ён будзе адпавядаць патрабаванням часу. Задача рэжысёра ў выхаванні акцёраў — стварыць калектыў аднадумцаў, якія аднолькава разумеюць галоўныя пытанні творчасці: што такое сучасны стыль ігры, інтэлектуальны і эмацыянальны пачатак у творчым працэсе і інш. Калектыў аднадумцаў не выключае, а, наадварот, мае на ўвазе развіццё творчай індывідуальнасці кожнага з яго ўдзельнікаў. І нават ва ўмовах абласнога тэатра, дзе спектаклі выпускаюцца адзін за адным, рэжысёр павінен знайсці магчымасці не «націскаць» на акцёра, не вырашаць за яго, а падвесці яго да разумення задумы спектакля паступова і паслядоўна.

Неабходна, каб акцёры ўвесь час пашыралі свой кругагляд. Добра ведалі б літаратуру, жывапіс, музыку, вывучалі б навакольнае жыццё ва ўсёй яго шматграннасці, каб, ствараючы вобразы нашага сучасніка, ведалі пра яго больш, чым тыя, што сядзяць у глядзельнай зале.

Работа рэжысёра з акцёрам — справа вельмі індывідуальная, нават інтымная. Тут не можа быць рэцэптаў, бо ўсё залежыць ад асобы і вопыту рэжысёра. Сістэма Станіслаўскага дае рэжысёру неабмежаваныя магчымасці для творчых пошукаў і адкрыццяў у гэтым напрамку.

Пластычны вобраз спектакля — такой была тэма выступлення рэжысёра тэатра імя Я. Купалы **В. Раеўскага.**

— Пра сябе асабіста скажу, што не магу пачаць работу з акцёрамі, псіхалагічную распрацоўку вобразаў, пакуль не ўбачу ўвесь спектакль у пастановачным вырашэнні. Форму спектакля нельга недаацэньваць. Яшчэ Станіслаўскі гаварыў, што ў акцёраў яго школы арсенал знешняга выяўлення павінен быць лепшы, чым у акцёраў іншай школы. Менавіта гэта ўлічваў Меерхольд, імкнучыся да вострай і абгрунтаванай формы спектакляў (чаго, на жаль, не хапае многім з нас).

Вядома, што пластычны малюнак спектакля рэалізуецца перш за ўсё праз акцёраў. Але як падрыхтаваны нашы акцёры? Тэхнічнае ўзбраенне іх часта не можа задаволіць рэжысуру (гэта датычыць не толькі падрыхтоўкі студэнтаў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце, але і амаль ва ўсіх інстытутах краіны). Калі ж той ці іншы педагог робіць спробу нешта перайначыць у метадах выхавання будучых акцёраў у гэтым плане (як, напрыклад, зрабіў У. Маланкін на сваім курсе), то адразу ж сутыкаецца з супраціўленнем людзей, якім больш зручна і звыкла працаваць па-старому.

В. Раеўскі выказаў пажаданне, каб і ў інстытуце, і потым у тэатрах больш увагі ўдзялялася музыцы, танцам, спевам, пантаміме і каб для вядзення такіх заняткаў прыцягваліся дасведчаныя майстры і педагогі.

Аб праблеме фарміравання маладога акцёра гаварыў і галоўны рэжысёр Брэсцкага абласнога тэатра імя ЛКСМБ **Г. Волкаў.** Ён засяродзіў увагу на ідэйна-палітычным выхаванні моладзі. Варта смялей давяраць маладым акцёрам адказныя ролі і цярпліва працаваць з імі, засцерагаючы ад шаблону і штампаў, бо лёс выпускнікоў тэатральных інстытутаў, як бы паспяхова яны ні скончылі навучальную ўстанову, амаль цалкам залежыць ад практычнай работы ў тэатры.

Пра пошукі сучаснага стылю спектакля гаварыў галоўны рэжысёр Рускага тэатра БССР імя Горкага **Ф. Шэйн.** Сучаснай можна лічыць толькі такую п'есу, сцвярджае ён, якая не займаецца вырашэннем дробных, хоць і надзённых пытанняў жыцця, не канстатуе факты, а раскрывае пэўныя тэндэнцыі жыцця ў яго развіцці. Сучасны спектакль можа быць і спрэчным, і палемічным; не трэба гэтага баяцца, бо спектакль, які не абуджае думкі, не дае спажывы для разважанняў, прапануе гатовыя рэцэпты, — не выклікае цікавасці і не ўплывае на гледача.

Рэжысёру важна не зблытаць сучаснасць і моду. Любы прыём вырашэння спектакля мае права на існаванне толькі тады, калі ён як мага больш дакладна, глыбока садзейнічае раскрыццю аўтарскай задумы — няхай выглядае ён «ультра-сучасна» або крыху старамодна.

— Вельмі важна, — працягвае Ф. Шэйн,— каб у тэатры працаваў калектыў аднадумцаў, людзей, якія размаўляюць на адной мове. А то часта замест тэатра — Вавілон, дзе кожны гаворыць па-свойму. Узорам тэатраў аднадумцаў уяўляюцца мне калектывы на чале з Таўстаногавым і Любімавым,

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр імя Я. Коласа ўпершыню на беларускай сцэне паказаў п'есу А. Астроўскага «Багна» (пераклад з рускай мовы Ю. Гаўрука). Рэжысёр лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР С. Казіміроўскі, дэкарацыйнае афармленне народнага мастака БССР Я. Нікалаева, музычнае — І. Нісневіча.

На здымку — артыст Г. Дубаў у ролі Кірылы Піліпавіча Кісельнікава.

Фота С. КОХАНА.



У Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі адбылася прэм'ера аперэты І. Кальмана «Сільва». Рэжысёр - пастаноўшчык В. Вярбоўская. Дырыжор Г. Хананьеў, балетмайстар Л. Травінін, мастак лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, народны мастак БССР Я. Чамадураў. Партыю Сільвы выканала Н. Белавусава.

На здымку — сцэна са спектакля.

Фота Ул. КРУКА.

*ЯК МЫ АДПАЧЫВАЕМ?*

## У КЛУБЕ ЗАВОДСКІМ...

БАЛЬНЫ ТАНЕЦ — гэта не марная трата часу, а заслужаны адпачынак, добры настрой, адчуванне прыгожага, жыццярадасных людзей вакол цябе, хараства і лёгкасці ўласных рухаў. Нарэшце, бальны танец — гэта наглядная прапаганда культуры, этыкі чалавека.

Ёсць многа старых бальных танцаў, сучасных савецкіх і заходніх. Можна стварыць яшчэ многа новых. Але іх зрэдку танцуюць, якія б добрыя яны ні былі. Чаму? — запытаецца чытач. Чалавек, які не ведае азбукі, чытаць не будзе. Але дастаткова яму авалодаць ёю, як ён пачынае чытаць.

Гэтак жа і ў харэаграфіі. Чалавек, які ведае асновы харэаграфічнай граматы і рытмікі, за некалькі мінут вывучыць любы бальны танец, незалежна ад таго, дзе яго будуць паказваць: у школе танцаў, на балях, па тэлебачанні і г. д. На жаль, пераважная большасць нашай моладзі ў харэаграфіі непісьменная і таму на балях многія хлопцы і дзяўчаты або сумуюць, або марнуюць час у буфетах. Любая, самая простая танцавальная кампазіцыя для іх — кітайская грамата (ногі рухаюцца — рукі перашкаджаюць, рукі рухаюцца — ногі перашкаджаюць, а тут яшчэ галаву трэба некуды дзець). А калі хто і танцуе, мы асуджаем няўмек за бязладнасць і нязграбнасць.

Я пабывала ў суботні і нядзельны вечары на некаторых танцавальных пляцоўках Мінска.

Танцавальная зала парку культуры імя Чалюскінцаў змяшчае 630 чалавек. Гардэроб вельмі малы, месца для ўсіх не хапае. Зала прасторная, ёсць эстрадны аркестр, добра арганізавана служба захавання парадку. Моладзі многа, але танцуюць вельмі кепска. Усе танцы на адзін лад, і танцоры хутчэй падобныя на секту «трасуноў»: галовы матляюцца, рукі тузаюцца, ногі тупаюць — невядома куды і чаго.

Танцавальная зала мае штатнага распараджальніка. Гэта — Таццяна Мацук, яна закончыла Мінскае харэаграфічнае вучылішча. На жаль, за ўвесь вечар Таццяна не паказала ні аднаго па якога-небудзь танца. Паводле слоў адміністрацыі за чатыры месяцы работы яна фактычна нічога яшчэ не рабіла. Нядаўна ёй далі магчымасць наведваць студыю бальнага танца Дома культуры трактарнага завода, але яна ні разу не прыйшла на гэтыя заняткі. Масавіка я таксама не бачыла пры выкананні сваіх абавязкаў.

У Палацы культуры прафсаюзаў баль праходзіў у вялікай зале. Танцы выконваюцца крыху лепш, чым на іншых пляцоўках горада. Тут перад пачаткам практыкуецца паказ танцаў. Потым на трэцім паверсе палаца ў суправаджэнні другога эстраднага аркестра жадаючыя развучваюць іх. У малой зале дэманструюць дакументальныя фільмы, і можна ў перапынках паміж танцамі паглядзець іх. Добра і цікава праводзіць работу масавік.

Баль у Палацы культуры камвольнага камбіната самы нецікавы. Народу больш, чым трэба. Танцуюць і па-

# КЛОПАТ, ШУКАННІ

Можна спрачацца, не прымаць тое, што яны робяць, але нельга адмовіць ім у мэтанакіраванасці, цэласнасці, агульнасці творчых імкненняў. Мне могуць запярэчыць, што я называю занадта буйныя імёны. Але на такіх прынцыпах павінны працаваць усе рэжысёры.

Галоўнага рэжысёра Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі ў Бабруйску **В. Каралько,** натуральна, хвалююць пытанні, звязаныя з выхаваннем маладога артыста, бо тэатр складаецца амаль з адной моладзі. На яго думку, гэта вельмі цікавыя, апантаныя, улюбёныя ў тэатр людзі, вострае бачанне рэчаіснасці якіх можа многае падказаць рэжысёру. Гэта зусім не азначае, што ў падрыхтоўцы будучых артыстаў у інстытуце няма негатыўных бакоў, але іх адданасць тэатральнаму мастацтву народжана там, і за яе нельга не сказаць удзячнага слова педагогам інстытута.

В. Каралько спыніўся таксама на тых цяжкасцях, якія перажывае тэатр у Бабруйску, і самай галоўнай з іх — адсутнасці стацыянарнага памяшкання.

Загадчык кафедры акцёрскага майстэрства Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута **У. Маланкін** гаварыў, што пры ўсіх недахопах, якія, безумоўна, ёсць у выхаванні студэнтаў інстытута, хацелася б, каб рэжысёры тэатраў больш клапатліва, па-бацькоўску ставіліся да таго чалавечага багацця, якое яны атрымліваюць. Цяперашняе пакаленне будучых артыстаў патрабуе і новых адносін да сябе з боку настаўнікаў. Гэтага адчування часам не хапае нават вельмі добрым вопытным рэжысёрам.

Пытанні тэатральнай крытыкі закрануў у сваім выступленні заслужаны дзеяч мастацтва БССР **У. Стэльмах.** Ён адзначыў, што далёка не ўсе рэцэнзіі на спектаклі ў перыядычным друку рэспублікі вызначаюцца глыбінёй думкі, грунтоўным аналізам работ рэжысёраў і акцёраў. Крытык павінен стаць сябрам, таварышам, дарадчыкам тэатра. Толькі прынцыповая крытыка зможа прынесці свой плён і карысць.

Падводзіць штогод вынікі работы ў кожным тэатральным калектыве рэспублікі прапанаваў рэжысёр тэатра імя Я. Купалы **Б. Луцэнка.** Калі б у канцы сезона праводзіўся глыбокі і дэталёвы аналіз і п'ес, і спектакляў, калі б адкрыта называліся правалы і заахвочваліся ўдачы (накшталт таго, як гэта робіцца ў спорце), тады б у новы сезон мы ўступалі з больш яснымі перспектывамі.

— Пры ўсёй разнастайнасці нашага тэатра мэта яго адна,— сказаў намеснік начальніка Упраўлення па справах мастацтваў Міністэрства культуры БССР **А. Саннікаў,** — зрабіць чалавека лепшым, чысцейшым, багацейшым, бо будаўніцтва камунізма не можа быць паспяховым без усебаковага развіцця чалавечай асобы. Таму рэжысёр заўсёды павінен адчуваць асаблівую адказнасць перад часам, перад грамадствам. Ва ўзаемаадносінах тэатра з драматургамі адзін з важных абавязкаў рэжысёра — дапамагаць здольным літаратарам знайсці сваё месца ў новым для яго жанры.

— На сённяшняй канферэнцыі было пастаўлена многа цікавых пытанняў,— сказаў прафесар школы-студыі МХАТ **В. Манюкоў.** — Зразумела, канферэнцыя не можа іх вырашыць, але вялікая карысць яе менавіта ў тым, што праблемы ўзняты. Рэжысура — адна з самых маладых прафесій свету. У адрозненне ад іншых прафесій, якія імкнуцца да вузкай спецыялізацыі, яна развіваецца не толькі ў глыбіню, але і ў шырыню: чым шырэй веды рэжысёра ва ўсіх галінах жыцця, тым больш ён можа зрабіць у мастацтве.

Блытаніна ў ацэнцы творчай спадчыны Станіслаўскага, лічыць прамоўца, адбываецца часткова і таму, што людзі, якія спасылаюцца на яго, не ўлічваюць, што ў розныя перыяды жыцця ён быў розны. Сапраўдны мастак ніколі не спыняецца. Так, напрыклад, Любімаў, які ставіў «Дзесяць дзён, якія ўзрушылі свет», быў не тым Любімавым, які ставіць «Гамлета».

— Мы існуем для гледача, — працягвае В. Манюкоў.— Але ці не пераацэньваем мы часам яго густ, узровень, патрабаванні? Я ведаю людзей розных прафесій, якія выдатна валодаюць сваёй спецыяльнасцю, але часам не разумеюць спецыфікі мастацтва. Задача тэатра — выхоўваць у такой часткі нашай аўдыторыі сапраўды высокі мастацкі густ.

На канферэнцыі выступілі галоўны рэжысёр Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы **Ц. Кандрашоў,** рэжысёры **У. Шыманскі** (Бабруйск), **У. Караткевіч** (Магілёў), **Г. Баравік** (Мінск), **А. Кавалёў** (Віцебск), прадстаўнік Міністэрства культуры СССР **П. Самарын,** старшы выкладчык Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута **А. Даброцін,** дырэктар Беларускага тэатра оперы і балета **М. Шаўчук.**

У заключэнне работы канферэнцыі **Ю. Міхневіч** адзначыў, што яна прайшла ў атмасферы шчырай зацікаўленасці яе ўдзельнікаў у паляпшэнні работы нашых тэатраў і, безумоўна, прынясе карысць агульнай справе. Частка пытанняў, якія ўзнімаліся на канферэнцыі, ужо абмяркоўвалася ў міністэрстве, у прыватнасці, пытанне лепшай падрыхтоўкі артыстаў, заахвочвання акцёраў за выдатныя работы, падбору адміністрацыйных кадраў і г. д. Цяпер праходзіць фестываль, прысвечаны 50-годдзю стварэння СССР. На нашых сцэнах і эстрадных пляцоўках будуць выступаць цікавыя калектывы з іншых рэспублік. Да нас прыедуць Малы тэатр і Маскоўскі драматычны тэатр на Малай Броннай. Мяркуецца, што следам за імі будзе ў нас гастраляваць Тэатр на Таганцы. Гэта ажывіць і ўзбагаціць тэатральнае жыццё Беларусі. Думаецца, варта запрашаць да нас на пастаноўкі спектакляў рэжысёраў з розных рэспублік і падтрымліваць такія сувязі надалей...

Канферэнцыя яшчэ раз паказала, што творчыя работнікі беларускай сцэны разумеюць высокія і адказныя задачы, якія ставіць перад мастацтвам партыя, і прыкладаюць намаганні, каб быць на ўзроўні патрабаванняў часу.

---

водзяць сябе дрэнна. Дзіўна, камвольны камбінат славіцца ў рэспубліцы высокай культурай працы. І раптам бескультур'е, калі адпачывае моладзь.

Пераканана, што адпачынкам моладзі павінны сур'ёзна зацікавіцца работнікі культуры і асветы, камсамольскія арганізацыі горада, шырокая грамадскасць. Мы не можам мірыцца з бескультур'ем.

Як педагог-харэограф, лічу неабходным увесці ў навучальных установах рэспублікі — школах, прафесійна-тэхнічных вучылішчах, тэхнікумах (у школах не раней VI і VII класа) выкладанне спецыяльнай дысцыпліны, няхай ў па-за класны час. У праграму, разлічаную на год навучання, варта ўключыць: пастаноўку корпуса, галавы, ног, рытміку (для харэаграфіі). Знаёмства з асноўнымі палажэннямі бальнага танца, рухамі, уласцівымі вальсу, факстроту, танга, групе сучасных танцаў. Паўтараю: толькі іх асноўныя па і рытмічны малюнак.

Вялікую дапамогу навучальным установам і зацікаўленым арганізацыям у гэтай справе мог бы аказаць Інстытут павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры Міністэрства культуры БССР, а таксама прафесійныя калектывы — тэатр оперы і балета, Дзяржаўны ансамбль танца БССР, танцавальная група Дзяржаўнага народнага хору БССР. Відаць, кожны год з гэтых калектываў ідуць на пенсію артысты балета. Вось гэтым людзям і варта прапанаваць прайсці 2—3 месячную перападрыхтоўку ў Інстытуце культуры. Класічны і народна-характарны трэнаж яны ведаюць выдатна. Трэба толькі звярнуць іх увагу на методыку асноў выкладання трэнажу і рытмікі ў харэаграфіі. Тады школы, клубы, палацы і дамы культуры атрымаюць кваліфікаваныя кадры педагогаў-харэографаў.

У гэтых кароткіх нататках мне хацелася б узняць яшчэ некалькі пытанняў. Даводзіцца часта чуць — маладзёжнае кафэ, маладзёжныя балі, маладзёжныя, маладзёжныя... Гэта, прыкладна, да 23—25 гадоў. Ну, а астатнія? Астатнім нібыта ўжо і няёмка хадзіць на танцы, нібыта ўжо старыя яны... Але ж старасць — гэта не фармальнае вылічэнне часу, гэта хутчэй хвароба ад нерухомасці, вяласці, ляноты. Такое можа быць і ў дваццаць гадоў. Таму варта ўсур'ёз заняцца арганізацыяй адпачынку людзей, старэйшых дваццаці пяці гадоў, таксама яшчэ маладых, энергічных. Бальны танец не прыарытэт 17—20-гадовых. Цікавая навіна нарадзілася ў Палацы культуры прафсаюзаў. Тут арганізаваны гурток па вывучэнні бальнага танца для людзей старэйшага ўзросту, ад трыццаці і больш.

І некалькі слоў пра буфеты ў культурна-асветных установах, дзе моладзь бавіць свой вольны час. З напіткаў вам часцей за ўсё прапануюць віно, піва, іншы раз ліманад— але ўсё стандартнае, нясмачнае, п'янае...

Вельмі дрэнны, напрыклад, буфет у танцавальнай зале парку імя Чалюскінцаў. Хлопцы і дзяўчаты прыйшлі патанцаваць. Ім горача, душна. Хочацца піць. А вам прапануюць толькі віно. Нават звычайных бутэрбродаў няма, каб закусіць. Адміністрацыя, натуральна, лічыць, што такі буфет шкодзіць наведвальнікам, прыносіць многа засмучэнняў, псуе святочны настрой. І ў палацы культуры прафсаюзаў рэстаран «Нёман» у асноўным забяспечвае буфет толькі віном, а таму на танцах бываюць п'яныя.

Кожны народ мае свае цудоўныя напіткі. Напрыклад, чай: чай па-рускy, чай па-калмыцку, чай па-казахску, зялёны чай, чай з варэннем, ды ўсё не пералічыш. Гэтак жа і кава: чорная кава, па-турэцку, паляўнічая кава, з лімонам, на чыстым малацэ і інш.

Многа нацыянальных фруктовых кактэйляў і напіткаў. Напрыклад, вельмі добра наталяе прагу хлебны квас. У прыволжскіх гарадах улетку ва ўсіх магазінах, на рынках, на вуліцы ў латках, у магазінах кулінарыі прадаюцца пірагі з ягадамі, яблыкамі, грыбамі, капустай, цыбуляй. Немагчыма прайсці міма і не купіць такі апетытны піражок. У Прыбалтыцы цудоўныя стравы з узбітай смятанкай. Ёсць нямала нацыянальных беларускіх страў. На жаль, іх не знойдзеш у буфетах.

Заканамернае пытанне Міністэрству гандлю БССР: хіба буфеты ў клубах, дамах і палацах культуры разлічаны толькі на мужчын і толькі на тых, хто любіць выпіць? А як быць дзяўчатам, калі яны пасля танца хочуць выпіць глыток мінеральнай вады або якога-небудзь іншага напітку, паласавацца марожаным, цукеркай? Няўжо даходны артыкул «гандлёвай кропкі» важней за маральны аспект? Мне здаецца, што ў буфетах тэатраў, філармоніі, клубаў і палацаў культуры, кінатэатраў — павінны быць цукеркі спецыяльна выробленыя для культурна-відовішчных устаноў, у прыгожых абгортках, павінны быць маленькія наборы цукерак, мармеладу, зефіру, пячэння, каб гэта быў і своеасаблівы сувенір і добрая памяць, аб тым, што ты наведаў тэатр, быў на балі ў заводскім клубе. Напіткі не толькі ў паўлітровых бутэльках, а і ў маленькіх, разнастайныя, свежыя, у прыгожым афармленні.

Вывад напрошваецца адзін — адпачынку моладзі трэба аддаваць больш увагі, па-сапраўднаму, а не фармальна, клапаціцца аб ім.

**Галіна ЧАРНАЯРАВА,**
**харэограф.**

---

# АРГАН, НА ЯКІМ ІГРАЎ С. МАНЮШКА

**Каралішчавічы... Невялікая вёска на дзевятым кіламетры ад Мінска. Гэта яшчэ адно месца на Беларусі, дзе пабываў у свой час вядомы польскі кампазітар Станіслаў Манюшка.**

**Пра гэта ён пісаў у польскім часопісе «Ruch muzyczny» за 1851 год.**

**Якая справа прымусіла вядомага ўжо ў той час кампазітара звярнуць увагу чытачоў на маленькую беларускую вёску?**

**З захапленнем піша Манюшка аб цудоўным аргане, на якім яму давялося іграць у Каралішчавічах. Па апісанні кампазітара, гэта быў звычайны па памерах арган. Але гучанне яго здзівіла Манюшку сваёй прыгажосцю. Ён піша, што ў такіх інструментах, «мае патрэбу не толькі вясковы касцёл, а самая шырокая грамадскасць». На думку кампазітара, такія інструменты дапамагаюць прывіваць добры музычны густ.**

**Зроблены арган, гаворыць Манюшка, «руплівым і сумленным працаўніком» Янам Бяляўскім. З артыкула мы даведваемся, што гэта быў сціплы і таленавіты ўмелец, сучаснік Манюшкі, які вучыўся майстраваць арганы ў Вільні. Ён манціраваў арганы ў Гродзенскай і Ковенскай губернях. Жыў у той час Бяляўскі ў Мінску і займаўся сваёй любімай справай.**

**Невялікі артыкул вядомага кампазітара раскрывае перад намі яшчэ адну рыску музычнага жыцця на Міншчыне 19 стагоддзя.**

**С. ПАРЭЦКАЯ.**

---

# ДЗЯКАВІЦКІЯ ВЯЧОРКІ

*Сапраўдным адкрыццём для гледача, найбольш яркім выступленнем на раённым аглядзе мастацкай самадзейнасці, які праходзіў у Жыткавічах, стала праграма, падрыхтаваная агітбрыгадай Дзякавіцкага сельскага клуба.*

*«Вячоркі» — так назвалі самадзейныя артысты сваё сцэнічнае прадстаўленне. Яго сцэнарый створаны імі самастойна, пад кіраўніцтвам маладога загадчыка клуба Мікалая Рагалевіча. Праграма вытрымана ў народным стылі, прасякнута фальклорнымі матывамі. У адпаведнасці з характарам прадстаўлення, выканана і афармленне сцэны — тут ёсць і прасніца, і ступа, і саматканыя посцілкі і іншыя атрыбуты ўбранства старой сялянскай хаты. Да гэтай абстаноўкі ўдала дапасуецца музычнае суправаджэнне: музыкі акампаніруюць на народных інструментах — гармоніку, бубну са званочкамі, на берасцянцы.*

*І песні, і танцы, і дасціпныя жарты, уключаныя ў праграму, прасякнуты мясцовым палескім каларытам. Разам з тым знешнія аксесуары ўжыты ўмела, умерана, без ценю псеўданароднасці, і глядач не заўважае стылізацыі, верыць у гэты песенна-паэтычны расказ аб мінулым беларускага Палесся. Калі ж гаворка пераходзіць на сучаснасць, адпаведна змяняюцца і афармленне, і музыка, і сам тэмп выступлення.*

*Вопыт Дзякавіцкага клуба рэкамендаваны да распаўсюджвання сярод сельскіх самадзейных калектываў раёна. Патрэбна адзначыць, што гэты ансамбль вядомы на Жыткаўшчыне ўжо даўно, і на леташнім аглядзе ён быў названы адным з лепшых. Характэрная асаблівасць яго — пастаянны пошук новых метадаў і форм самадзейнага сцэнічнага мастацтва. Поспех «Вячорак», відавочна, у тым, што агіткалектыў узяў на ўзбраенне багатыя народныя традыцыі, і не толькі плённа выкарыстаў іх, але і творча пераасэнсаваў, развіваючы ў святле сённяшняга дня.*

**С. ПЯТРОЎСКІ.**

---

# «БЕЛАРУСЬ»— МАРКА ПАПУЛЯРНАЯ

**Гармонікі, баяны, акардэоны маркі «Беларусь», якія вырабляюцца на Маладзечанскай фабрыцы музычных інструментаў, карыстаюцца павышаным попытам у аматараў музыкі. Калектыў фабрыкі павялічвае выпуск прадукцыі, паляпшае яе вонкавы выгляд, якасць. Толькі летась ў гандлёвую сетку краіны адпраўлена музычных інструментаў на суму каля шасці мільёнаў пры заданні пяць з палавінай мільёнаў рублёў.**

**Нядаўна калектыў фабрыкі адправіў новую вялікую партыю музычных інструментаў у Кіеў, Кішынёў і прыбалтыйскія рэспублікі.**

**В. ІГНАТОВІЧ.**

# РОЗДУМ ПАСЛЯ КАНГРЭСУ

П. МУХАРЫНСКАЯ

Так, музыка — і народная і прафесійная, кампазітарская — таксама ўдзельнічала ў спрэчках, праз якія ўдзельнікі кангрэсу прыйшлі да многіх агульных заключэнняў. У прыватнасці, да выдатнага рашэння пачаць калектыўнае шматгадовае выданне «Гісторыя развіцця музычных культур свету».

Але перш мне хочацца ўсё ж расказаць аб сутнасці спрэчак. Як павінны развівацца музычныя культуры, як выхоўваць моладзь? Вельмі характэрна рэзкае, нават бурнае сутыкненне думак па гэтым пытанні ў рабоце секцыі, якая займалася праблемамі музычнага выхавання. Тут былі заслуханы выступленні Д. Кабалеўскага (у сувязі з хваробай кампазітара — у магнітафонным запісе), В. Пратапопава, А. Лемана, І. Беларуца, А. Багатырова, Л. Карагічовай, Г. Ліцінскага, А. Рудневай і інш. Здавалася, у карысць народнасці і рэалізму былі прыведзены пераканаўчыя доказы.

**Аднак пасля выступлення А. Багатырова заходнегерманскі кампазітар Эгон Краўс палічыў сябе вельмі абражаным. «Я не разумею, — сказаў Краўс, — дзе я знаходжуся? У мяне такое ўражанне, нібы я трапіў у атмасферу змовы — змовы супраць авангардызму!»**

**Так хваравіта закрануў гэтага абаронцу мадэрнізму і ўсялякіх іншых «ізмаў» заклік да выхавання моладзі ў традыцыях любві і павагі да народнай песні. Адпор гэтым снабісцкім настроям, прадузятым адмоўным адносінам да народнай песні даў румынскі кампазітар і музычны дзеяч Гіркаяшу, які падхапіў на ляту кінуты мяч праціўніка: «Так,— сказаў ён, — вы трапілі ў атмасферу змовы, але толькі не «змовы супраць авангардызму», а змовы супраць дрэннай музыкі!» Гэта першае сутыкненне на пасяджэнні секцыі мела свой працяг тады, калі студэнты харавога аддзялення інстытута імя Гнесіных паказалі на пасяджэнні рускія народныя працяжныя песні ў своеасаблівай і паўімправізаванай старадаўняй манеры, якая ўзнаўляла рускую народную падгалосачную поліфанічную традыцыю.**

— Цяпер я разумею, чаму вы так гаворыце пра свой фальклор, я вам зайздрошчу! — сказаў Э. Краўс. — Але што рабіць мастаку краіны, дзе няма такога разнастайнага і маляўнічага фальклору? Я магу паручыцца: у нас у Германіі музычны фальклор даўно вычарпаў сябе, у нашым фальклоры няма тых творчых элементаў, якія маглі б даць плён у спалучэнні з фантазіяй кампазітара!..

Міжволі думаецца: а чаму ён не ўспомніў Карла Орфа?! І няўжо не зразумеў кампазітар Э. Краўс, што музычная творчасць народа існуе ўсюды, трэба толькі ўмець яе знаходзіць?

**Так! Музыка была паўнапраўнай удзельніцай «вялікай размовы», якую мы вялі з музыкантамі свету. Якой высакароднасцю дыхалі паказаныя на канцэртах XIII квартэт Д. Шастаковіча, «Патэтычная араторыя» Г. Свірыдава на словы У. Маякоўскага і яго ж дванаццацігалосы мужчынскі хор а капэла «Душа сумуе па нябёсах» на словы С. Ясеніна! Асабліва выразна адпавядалі тэматыцы кангрэсу канцэрты з твораў кампазітараў і народнай творчасці братніх рэспублік СССР.**

**Творы кампазітараў Каўказа і Сярэдняй Азіі (Фікрэта Амірава, Атара Тактакішвілі, Шырвані Чалаева і іншых) прагучалі як яркія прыклады творчага выкарыстання фальклору. Партыю для голасу ў «Сямі лакскіх народных песнях» выканаў сам аўтар Шырвані Чалаеў. Гэта была сапраўдная стыхія, і іншы раз здавалася, што кожная з гэтых песень нараджаецца і свабодна выліваецца з вуснаў спевака менавіта зараз, у момант выканання на канцэрце.**

Незабыўнае ўражанне пакінулі два канцэрты музыкі народаў СССР, мэтай якіх было знаёмства з фальклорам братніх народаў у найбольш «чыстым» выглядзе.

Музыказнаўцы - фалькларысты «вывозілі» на кангрэс выбраныя імі ў час экспедыцыйных паездак і ўважлівага стацыянарнага вывучэння песенныя калектывы, танцавальныя групы і групы інструменталістаў. Іншы раз гэта былі сямейна-таварыскія ансамблі, якія ўзніклі стыхійна. Іншы раз — сталыя калгасныя калектывы са сваімі традыцыямі.

Глыбокае задавальненне далі слухачам эстонскія песенніцы (вакальны ансамбль эстонцаў-сету Пячорскага раёна Пскоўскай вобласці), «адкрытыя» Удо Колькам. Колькі ў іх суровай стрыманасці, сапраўднага пачуцця! Вельмі блізкі да іх па дзівоснай прастаце і жаночы ансамбль вёскі Чарнышы Комі АССР, які выконваў на куімчыпсанах (своеасаблівых флейтах) танцавальны наігрыш.

**Два зусім розныя калектывы прывёз на агляд В. Шчураў. З поўначы — народны хор горада Мезень, з поўдня — сялянскі хор сяла Афанасеўка Белгарадскай вобласці. Афанасеўцы трымалі сябе на падмостках гэтак жа спакойна і натуральна, як у сябе «на вуліцы», нібы сабраліся, каб сваім маладзецтвам павесяліць сяброў і суседзяў. Асабліва прыгожыя ў іх вясельная танцавальная, карагодная «Дзеўка па садзе хадзіла», прыпеўкі пад жалейку. «Важак» Яфім Сапёлкін вядзе іх за сабой і ў рытме рухаў і ў гукавым ладзе.**

Дзівосным па выразнасці было «гарлавое спяванне» тувінскага чабана Оаржака Хунаштаар-аола з саўгаса Алдан-Маадыр, які дасканала валодае «сольным шматгалоссем». Уразіла развітае харавое поліфанічнае мастацтва аджарскіх народных спевакоў. Мужчынскі ансамбль вёскі Цхаўроха Кабулецкага раёна выканаў найскладанейшыя «крыманчулі» з надзвычайнай лёгкасцю, свабодай, гумарам. Пакарыў публіку калектыў інструменталістаў Гуцульшчыны, паказаны іх «куратарам» І. Мацыеўскім. Асабліва запомніўся слухачам заключны нумар іх праграмы — сыграная на скрыпцы (і адначасова расказаная) гумарыстычная бытавая казка пра аматара «хадзіць у госці да чужой жонкі». Па сутнасці, паказ асобных эпізодаў расказа на інструменце далёка перарастаў задачы «ілюстрацыі» і нагадваў праграмную п'есу, якая выконваецца віртуозам-салістам. Па жывасці і рэалістычнасці музычнага паказу гэта проста цуд.

Выдатны і літоўскі этнаграфічны ансамбль пад кіраўніцтвам Павіласа Матайціса. Гэта амаль прафесійны ансамбль, які ўзнаўляе этнаграфічную традыцыю на аснове глыбокага яе вывучэння. Нечым няўлоўным ансамбль гэты нагадвае мне нашы беларускія калектывы. І пра іх, як і пра нашых палескіх выканаўцаў, можна было б сказаць словамі праграмы «Канцэрта народаў»: «Вялікай эканоміяй выяўленчых сродкаў і гранічнай адточанасцю формы вызначаецца іх песеннае мастацтва». Так, менавіта «вялікай адточанасцю формы». І яшчэ, дадала б я, нейкай дзівоснай ціпласцю, мяккім лірызмам, якія ўласцівы і тым і другім.

**Беларусь была прадстаўлена на гэты раз Гомельшчынай (двума ансамблямі Лельчыцкага раёна — Тонежскім і Букчанскім) і Брэстчынай —сялянскім вакальным ансамблем вёскі Клетная Пінскага раёна. З'яўленне іх на сусветным форуме, вядома ж, не было б магчымым, калі б не велізарная работа музыказнаўцы-фалькларыста З. Мажэйкі, этнаграфічных канцэртаў гэтых хораў у Мінску, паказаў палескіх спевакоў па Беларускім і Усесаюзным тэлебачанні. Нашы сельскія аматары выступілі паспяхова, вельмі роўна і ўвесь час былі, як кажуць, «у форме». І лірычная «Ой, пайду я цёмным лесам», у якой лідзіраваў і запяваў карыфей тонежскіх спевакоў Сцяпан Дубейка, і працяжная «Салавей, салавей», якая дала магчымасць раскрыцца абаяльнаму дараванню Фаіны Алесіч з вёскі Букча, і хрэсбінная «Ой, кумухна да галубухна» клятнянцаў з Аляксандрам Каранчук на чале — усё прагучала выдатна. У другім канцэрце спявачкам была дадзена магчымасць паказаць хоць бы па адной жніўнай песні. У тонежцаў запяваламі былі Ганна Вянгура і Хрысціна Дарашэвіч; у букчанцаў — Фаіна Алесіч; у клятнянцаў— Вольга Вакульчык. Яны выканалі свае песні з сапраўдным артыстызмам і цудоўным майстэрствам.**

Поспех народных спевакоў з поўным правам маглі падзяліць іх «куратары» - музыказнаўцы — Э. Аляксееў, У. Кольк, І. Мацыеўскі, З. Мажэйка, М. Дрынеўскі і, нарэшце, старшыня фальклорнай камісіі Саюза кампазітараў СССР В. Шчураў. Прэзідэнт Міжнароднага музычнага савета, славуты скрыпач Іегудзі Менухін, падводзячы вынікі вялікай размовы, гаварыў: «Мы не павінны меркаваць, быццам усялякае пісьмовае музычнае мастацтва вышэй беспісьмовага. Наадварот. Усе самыя высокія творы вялікага мастацтва выраслі на глебе фальклору... Трэба стварыць міжнародны гукавы архіў фальклору».

...КАНГРЭС даўно скончыўся. Але думкі, якія былі выказаны на ім, будуць яшчэ доўга хваляваць музыкантаў розных краін, дапамогуць ім шукаць шляхі збліжэння розных музычных культур, узбагачэння прафесійнай музыкі з фальклорных крыніц.

## Паэтычная ПАВЕРКА

Вольга ІПАТАВА



### КІРГІЗІЯ

Я сасню цябе, я сасню
Арыкаў сінюю глыбіню,
Бавоўны белую гарачыню...

Прахалоду блакітных гор,
Рэха дальняе наўздагон,
Радзіму бацькі майго...

Што клікне часамі мяне
Кіргізскаю песняй у сне,
Сонечнай грывай мільгне...

Буйнасць макаў у шызай траве,
Дзе прытульна тваёй галаве,
Дзе даўжэй чалавечы век...

●

Задоўга не раблюся я
дарослай,
Ва ўсіх учынках холадна-
цвярозай.
І мая шчодрасць, розумам не
ўзважаная,
Магчыма, стала для цябе не
важная.

Якое невыноснае чаканне
Твайго ліста, твайго званка,
дыхання!

Дрыжу на ветры злосным да
камля,
А ногі ціха грэе мне зямля...

●

Дрэва здрыганулася ад ветру,
І ніхто — ні людзі, ні зямля —
Не пачулі—празвінеў ў
паветры
Ліст кляновы ціхай нотай «ля».

Ледзь зямлі крануўся —
і пячаткай
Бот яго прыціснуў незнарок.
Растаптаў сімфоніі пачатак
Раўнадушны крок...

●

У чалавека такая прага да
шчасця,
Няўтольная прага такая...
Ваганні бясконца ў душы ён
грувасціць,
І нечага ўпотай чакае.

Калі ж ён зловіць хвіліну тую,
Хвіліну дрыготкую шчасця —
Усё узважыць — і мо'
пашкадуе
Галаву за яе пакласці...







З пошты ЛіМа

# А ЧАМУ Б І НЕ?..

Той, хто хоць раз праязджаў па дарозе з Мінска на Нарач, памятае, вядома, гэтыя месцы. Шаша праходзіць Мядзель і абгінае люстраную роўнядзь Мястра—аднаго са шматлікіх азёраў Нарачанскага краю. Злева ад дарогі на высокім узгорку застаецца група векавых дрэў, над якой узвышаецца купал, увенчаны прыгожай вежкай. Многія праязджаюць міма—няма часу. Ды і наогул, ці мала ў дарозе новага—усюды не спынішся. А між тым стары парк хавае сярод сваіх дрэў адзін з вельмі цікавых архітэктурных помнікаў Беларусі.

У 1754 годзе ўладальнік Мядзеля тых часоў Антон Кошыц пабудаваў тут мураваны касцёл і манастыр. Выдатны белы будынак храма і дагэтуль стаіць над возерам, а ад манастырскіх пабудоў засталіся толькі невялікі двухпавярховы жылы домік, ды невялічкая сціплая двух'ярусная званічка.

Мядзельскі храм па сваёй аб'ёмнапрасторавай кампазіцыі далёкі ад агульнавядомых узораў культавага будаўніцтва тых часоў. Ён нагадвае пабудовы эпохі Адраджэння. Сіметрычны, квадратны ў плане, ён увенчан васьмівугольным барабанам з купалам—матыў уласцівы Рэнесансу. А ў аддзелцы фасадаў і, асабліва, інтэр'ераў выявіўся ўплыў вядучага мастацкага напрамку сярэдзіны XVIII стагоддзя—ракако (позняга барока). Разарваныя карнізы франтонаў, разнастайнасць вокнаў са складанымі рамамі, ляпныя аздобы, балкон на трэцім ярусе галоўнага фасада з тонка прарысаванай агарожай—характэрныя рысы і прыёмы гэтага стылю. Калоны карынфскага ордэра, якія адыгрываюць, па сутнасці, ролю пілястр, адарваны ад сцен і кідаюць на іх глыбокія цені, што яшчэ больш узмацняе ўражанне ад фасадаў.

Цэнтрам будынка з'яўляецца перакрытая купалам круглая зала. Сцены яе апрацаваны пілястрамі і складанымі карнізамі. Другі ярус мае балкон са складанай канфігурацыяй у плане і нішы, упрыгожаныя ляпнымі ракавінамі. Захаваліся звесткі аб тым, што раней храм унутры быў распісаны.

А побач з цэнтральным будынкам ансамбля стаяць простыя як па вонкавым выглядзе, так і па сваёй планіроўцы званіца і невялікі двухпавярховы дом свяшчэнніка. Яны высунуты на пярэдні план і аб'ядноўваліся калісьці агарожай з шырокімі варотамі. Паасобна яны, бадай, нічога асаблівага і не ўяўляюць, але ў ансамблі дарэчы, бо падкрэсліваюць пышнасць барочнай архітэктуры, дапамагаюць убачыць хараство і прыгажосць дэталяў.

І міжвольна ўзнікае пытанне, а чаму б не выкарыстаць гэтыя будынкі, гэты кавалачак самой гісторыі, больш рацыянальна, больш мудра. Бо склад мясцовага аддзялення «Сельгастэхнікі»—гэта, бадай, не лепшае для будынкаў, якія нават толькі сваімі архітэктурнымі вартасцямі могуць прывабіць многіх турыстаў. Комплекс у Мядзелі размешчаны ў прыгожым месцы паблізу ажыўленай магістралі Нарач—Мінск. З году ў год сюды прыязджае ўсё больш адпачываючых. Таму, відаць, будзе разумным выкарыстаць гэты выдатны комплекс, як прадпрыемства абслугоўвання, рэстаран, гасцініцу, або нават канцэртную залу... А чаму б і не?..

**С. СЕРГАЧОЎ,**
архітэктар.

АКНО У ТВОРЧУЮ ЛАБАРАТОРЫЮ

В. БУРАН

# УРОКІ МАЙСТРА

ДА ВЫХАДУ Ў СВЕТ ЧАТЫРОХТОМНАГА ЗБОРУ ТВОРАЎ А. КУЛАКОЎСКАГА

У СВАІХ меркаваннях аб літаратуры крытыка адчувае патрэбу вяртацца час ад часу да вытокаў, паўторнага асэнсавання творчасці пісьменнікаў, грамадскіх і літаратурных з'яў. На пэўнай гістарычнай адлегласці лепш праглядаецца перспектыва, адсейваецца дробнае і кан'юнктурнае, выразней праступае галоўнае.

Творчасць Аляксея Кулакоўскага, аб якой пойдзе размова ў гэтым артыкуле, пачалася адразу пасля вайны і з тае пары нязменна выклікае жывую цікавасць чытача і літаратурнай грамадскасці. Яна развіваецца ў агульным рэчышчы беларускай савецкай прозы, выразна адлюстроўваючы яе ідэйна-мастацкія пошукі.

Старэйшае пакаленне сучаснікаў памятае, з якім уздымам патрыятычных пачуццяў і з якой велізарнай радасцю сустрэлі савецкія людзі вестку аб перамозе над фашысцкай Германіяй. Яна не толькі пацвердзіла нашу веру ў неадольнасць дабра і праўды, абудзіўшы светлыя мары аб будучым, але і абвастрыла пачуццё перажытага, раскрыла глыбінны сэнс усенароднага гераізму і ўсенародных ахвяр. Тэмы вайны і аднаўлення сталі галоўнымі ў беларускай літаратуры пасляваенных гадоў, а цэнтральнымі героямі яе—учарашнія воіны і партызаны, якія вярнуліся да мірнай стваральнай працы.

Натуральна, што А. Кулакоўскі—у 1945 годзе яшчэ невядомы аўтар, афіцэр-франтавік, які сам толькі што дэмабілізаваўся і ўвесь аддаўся журналісцкай і літаратурнай працы,—не мог прайсці міма гэтай тэмы: вельмі блізкім і знаёмым было яму гэтае пачуццё акрыленасці, вяртання ў мірнае жыццё. І вось у друку паяўляюцца апавяданні «Стары млын», «Мікіта Мінавіч», якія разам з іншымі творамі пісьменніка склалі яго першую кніжку «Сад» (1947 г.).

Калі перачытваеш апавяданні гэтага зборніка зараз (імі адкрываецца першы том збору твораў), вельмі выразна і непасрэдна адчуваеш эмацыянальную атмасферу першых пасляваенных год, думкі, перажыванні і настрой народа-пераможцы. Маладому пісьменніку ўдалося тое, чаго не заўсёды дамагаецца нават вопытны аўтар,—раскрыць вобраз часу ў яго тыповых праявах. І якраз у гэтым сакрэт ідэйна-эстэтычнай трываласці ранніх апавяданняў А. Кулакоўскага. З другога боку, А. Кулакоўскі літаральна з першых твораў напаткаў «свайго» героя і здолеў паказаць яго ярка, па-мастацку пераканальна, цікава.

Гэтага героя пісьменніку не трэба было шукаць дзесьці на старане—варта было прыглядзецца да сваіх землякоў-старобінцаў. Іх, адчуваецца, аўтар ведаў з дзяцінства, але толькі пасля вайны па-сапраўднаму спазнаў, зразумеў і ацаніў. Вайна нібы «перапісала» іх жыццё нанава, надаўшы больш увагі таму, што адпавядала ўнутранай сутнасці іх характараў,—гераізму, самаадданасці, бескарыслівай любві да роднай зямлі.

Чытач памятае Мікіту Мінавіча—пажылага селяніна, усё жыццё якога прайшло ў турботах і нягодах (апавяданне «Мікіта Мінавіч»). Пяць разоў гарэла яго хата, апошні раз—у вайну. Але стары не апусціў рук. «З прыходам нашых як узяў сякеру, дык і не выпускаю,—расказвае ён салдату-земляку.—Вунь, злізалася ўся... Паставілі новы кароўнік, клець, гумно для спажывы зрабілі новае, а то памагаў будаваць людзям. Я, лічы, адзін, мне што, а ў людзей дзеці...» Працавітасць, бескарыслівасць, прыродны гуманізм, спагада да чужой бяды—вось што вылучае Мікіту Мінавіча.

А вось глуханямы Павел Куцула—былы парабак, бабыль, якога ў вёсцы крыху чужаліся і пабойваліся за звычайную для яго замкнёнасць і знешнюю суровасць (апавяданне «Нямко»). Вызначаўся ён працаздольнасцю, умельствам рабіць розныя рэчы і яшчэ—сілай. Нехта быццам нават бачыў, як Нямко—так звычайна звалі Паўла аднавяскоўцы—у гневе зваліў з ног жарабка. Але мала хто ведаў, як па-свойму тонка адчувае ён прыроду, якое спагадлівае ў яго сэрца, якая шчырая любоў у яго да ўсяго жывога. Калі арганізаваўся калгас, Нямко быў прызначаны конюхам і так упадабаў сваю работу, так звыкся з конь-мі, што нават не начаваў дома. У час фашысцкай навалы Нямко труціць палеткі і нішчыць агнём спелую збажыну, каб дабро не дасталося ворагу, перадаў партызанам коней, з якімі хаваўся да глыбокай восені ў лесе. Калі ж нямецкі афіцэр зняважыў яго, Нямко ўдарам кулака аглушыў таго насмерць і сам пайшоў на смерць, не пажадаўшы, каб за яго ўчынак адказваў перад немцамі нехта з аднасяльчан...

Сапраўдным патрыётам, чалавекам мужнага сэрца паўстае перад чытачом і Грысь Вячэра—пчаляр у мірны час і памочнік партызан у ваеннае ліхалецце (апавяданне «Шляхамі жыцця»). Аднойчы нямецкі паслугач прывёў да яго карнікаў з загадам пераправіць іх за раку, гэта значыць—дапамагчы блакіраваць і знішчыць партызан. Вячэра пасадзіў здрадніка і некалькі гітлераўцаў у лодку і, адплыўшы ад берагу, утапіў, перакуліўшы пласкадонку...

Цэнтральным героем твораў А. Кулакоўскага з'яўляецца чалавек працы, просты і вялікі адначасна. Ён просты, але не просценькі, не шэры. І калі сёння мы адзначаем, што лепшыя творы А. Кулакоўскага, нягледзячы на свой паважны «ўзрост», захоўваюць свежасць, эстэтычную асалоду першаадкрыццяў, дык сакрэт гэтага трэба шукаць, думаецца, перш за ўсё ў створаных ім людскіх характарах, у яго прыхільнасці да паэтызацыі будняў працоўнага чалавека, ва ўвазе да народнага побыту, у ягонай вобразнай, сакавітай народнай мове. Пісьменнік вельмі любіць сваіх герояў — людзей працы. І ў гэтым таксама адзін з«сакрэтаў» эстэтычнай трываласці большасці яго твораў.

Праз усю творчасць празаіка, пачынаючы з апавядання «Кульгавы Пракоп», праходзяць вобразы майстроў якой-небудзь справы, народных умельцаў, людзей, бясконца ўлюбёных у жыццё, прыроду,—праходзяць як жывыя сведкі таленавітасці народа, як носьбіты працоўнай народнай мудрасці. Часам захапленне пісьменніка такімі самабытнымі характарамі настолькі вялікае, што, жадаючы расказаць пра іх, ён ідзе на парушэнне кампазіцыйнай стройнасці твора, як у аповесці «Тут я жыву», дзе вельмі каларытна, але неяк абасоблена выпісаны дзед Талімон, былы пастух, і каваль дзядзька Алесь. Але, зразумела, пісьменніцкая павага і любоў да чалавека выяўляецца не толькі ў стварэнні станоўчых характараў з рэзка акрэсленай чалавечай індывідуальнасцю. Яны і ў тым, да якіх гуманістычных вывадаў падводзіць чытача аўтар, якія бакі народнага жыцця прыцягваюць увагу пісьменніка, з якой дакладнасцю і заміласаванасцю раскрываецца людское асяроддзе, звычаі, побыт, яны і ў адборы дэталяў, і ў інтанацыі твораў.

Вядома, у сапраўднага пісьменніка любоў да чалавека не можа быць дэкларацыйнай ці самамэтнай. Шчырасць яе правяраецца тым, якія пачуцці абуджае яна ў сэрцы чытача. У гэтых адносінах творы А. Кулакоўскага працягваюць гуманістычныя традыцыі савецкай літаратуры, якая лічыць выхаванне чалавека высокіх маральных якасцей сваім найпершым абавязкам. У гэтым бясспрэчнае ідэйна-выхаваўчае значэнне творчасці пісьменніка.

А. Кулакоўскі прыйшоў у літаратуру як летапісец сучаснасці. Большасць яго твораў пра тое, што адбываецца на нашых вачах, аб фармаванні чалавека новага светапогляду, аб зменах у жыцці і псіхалогіі.

Неабходнасць увасабляць у творах сённяшні дзень дае пэўную перавагу і самому Кулакоўскаму. Ён часта выступае як першаадкрывальнік новых характараў, тэм, з'яў жыцця (пры ўсім тым, вядома, што сам па сабе зварот пісьменніка да сучаснасці яшчэ нічога не значыць: каб адкрыць нешта новае, заўважыць тыповае, значнае, трэба мець перш за ўсё талент).

У гэтай сувязі прыгадваецца апавяданне «Сад»—адно з лепшых ранніх апавяданняў пісьменніка. Знамянальнае яно ўжо тым, што яшчэ ў тыя гады, калі пра цяжкасці ў сельскай гаспадарцы не прынята было гаварыць адкрыта, тут зроблена спроба паглядзець праўдзе ў вочы, паказаць два тыпы калгаснікаў—дэмабілізаванага франтавіка, садавода Несцера, душа якога збалелася па працы і людзях, што жывуць у нястачы, і калгаснага рахункавода Сеўрука, які спекулюе на пасляваенных цяжкасцях.

Можна прыгадаць і іншыя творы А. Кулакоўскага, у якіх ён выступае ў ролі першапраходчыка, ратая цаліны: «Гартаванне»—аповесць пра будаўнікоў і рабочых Мінскага трактарнага завода, «Нявестка»—твор, у якім Кулакоўскі адным з першых пасля XX з'езда партыі зірнуў на жыццё вёскі больш рэалістычна, паказаў тое добрае, што прыйшло ў вёску дзякуючы захадам партыі, накіраваным на пераадоленне адставання сельскай гаспадаркі, і тое заганнае, што нараджалася адміністрацыйна-бюракра-

ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

# І РАЗВІЦЦЁ, І АБНАЎЛЕННЕ...

*ВАСІЛЮ ПАЛІЙЧУКУ — 50 ГАДОЎ*

Здаецца, зусім нядаўна пра скульптараў Андрэя Засціцкага, Паўла Белавусава, Сяргея Адашкевіча, Васіля Палійчука ўпаміналі ў артыкулах пад рубрыкай «Творчасць маладых». А сёння яны — тое самае «сярэдняе пакаленне», якое працуе надзвычай актыўна. Вось і Васіль Уладзіміравіч Палійчук — ужо юбіляр. За плячыма — пяцьдзесят. З іх дваццаць пяць аддадзена творчасці. Было б аддадзена больш, калі б не вайна.

Ён мяркуе, што яшчэ не сказаў самага запаветнага. Ажыццёўлена далёка не ўсё з задуманага. Адным словам, ён не адчувае сябе юбілярам.

Але рух часу, незалежна ад волі людзей, расстаўляе вехі на іх жыццёвым шляху, не-не ды і прымушае азірнуцца назад хоць бы для таго, каб больш ясна ўсвядоміць перспектыву. І Палійчуку ёсць на што азірнуцца, як бы сціпла ён сам ні ацэньваў свае заслугі. Лепшыя яго работы нясуць сваю высакародную службу ў музеях, выставачных павільёнах, інтэр'ерах і экстэр'ерах, рэпрадуцыруюцца ў выданнях па беларускім мастацтве.

Творчасцю таго пакалення скульптараў, да якога належыць і Васіль Палійчук, характарызуецца этап у развіцці беларускай скульптуры. Гэтае пакаленне прыйшло ў мастацтва ў першыя пасляваенныя гады з іх цяжкасцямі і дасягненнямі. На долю дэмабілізаваных воінаў выпалі ганаровыя і адказныя задачы — спрыяць аднаўленню разбуранага вайною, уславіць ваенны і працоўны подзвіг народа, які атрымаў перамогу над ненавісным ворагам. Сведчанні гэтых скульптараў аб тым часе і людзях вельмі каштоўныя. Бо гэта сведчанні відавочцаў і ўдзельнікаў падзей. Без уліку створанага імі гісторыя скульптуры цяпер выглядала б вельмі няпоўнай.

Канечне, першыя крокі моладзі ў мастацтва былі цяжкія. Развіваць прафесійныя навыкі, набываць творчы вопыт даводзілася на хаду. Ды абсталяваных майстэрняў не было. Таму асаблівае значэнне для кожнага з іх набыла падтрымка і дапамога старэйшых калег.



Для Васіля Палійчука, які дагэтуль жыў на Украіне, работа ў Беларусі мае значэнне і ў асабістым плане: ён вярнуўся на зямлю, з якой выйшаў яго прадзед.

Васіль Палійчук працуе над станковай і манументальнай кампазіцыяй, над партрэтам і ў анімалістычным жанры. Да якой бы тэмы ні звяртаўся, творчыя пошукі пастаянна арыентаваны на грамадска-важныя, актуальныя тэмы. Гэта відаць і ў самых першых творах, такіх, як работы па афармленні архітэктурных збудаванняў на Прывакзальнай плошчы, будынка Суворааўскага вучылішча, як станковыя кампазіцыі «Паранены воін», «На допыце. 1905 год», партрэты правадыроў. Гэта відаць і ў нядаўніх, пакуль яшчэ незавершаных работах скульптара на тэмы аб партызанскім руху, доблесці воінаў Савецкай Арміі.

Разнастайнасць творчых інтарэсаў скульптара шчасліва спалучаецца з пастаянным развіццём, абнаўленнем творчай манеры. Ад дэталёвага ўзнаўлення натуры ў работах «Абаронцы Брэсцкай крэпасці», «Патрабуем міру» і іншых ён паступова ішоў да ўсё большага абагульнення («Маці партызан», помнік Алене Колесавай), не адступаючы, аднак, ад прадметнасці адлюстравання, не пераступаючы мяжы рэалістычнай умоўнасці. І толькі ў самых апошніх творах — «Клятве», партрэце абаронцы Брэсцкай крэпасці Наганава і некаторых іншых сталі адчувацца рысы некаторай стылізацыі. І ўсё ж яна не набывае самадаўлеючага значэння.

Аднафігурная і шматфігурная кампазіцыя займаюць самае віднае месца ў яго творчасці, калі зыходзіць з колькасці. Выкарыстоўваючы сюжэт, скульптар імкнецца як мага больш поўна расказаць аб падзеі і як бы ўцягнуць у яе глядача. Праўдзівая абмалёўка знешнасці людзей і месца дзеяння заўсёды памагае гэтаму. Большасць такіх работ Васіль Палійчук выконвае ў невялікіх памерах.

Але вось, рыхтуючыся да адной з апошніх выставак, ён задумаў ажыц-

тычнай адвольнасцю, няўвагай да патрэб працоўнага чалавека; шэраг апавяданняў і аповесцей пра беларускіх шахцёраў, рабочых новабудоўляў, пра сучасную беларускую вёску, якую закрануў незваротны працэс урбанізацыі. А такія характары, як Труцікаў, Сакольны, Ладуцька, Чумак, Дзюбка з дылогіі «Расстаёмся ненадоўга» і «Сустрэчы на ростанях», Даніла і Шандыбовіч з аповесці «Нявестка», Нікадым Буза з апавядання «Кватаранты», той жа Сяўрук з апавядання «Сад», Мокрут з «Дабрасельцаў»,—хіба яны не ўзбагачаюць беларускую прозу, не нясуць на сабе адбітак навізны?

Перачытваючы творы А. Кулакоўскага зноў і зноў, лепш разумееш, у чым іх трываласць і сіла—у вернасці жыццёвай праўдзе, моцнай прывязанасці да канкрэтнага жыццёвага факта.

Здаралася, А. Кулакоўскага папракалі за «натуралізм», «празмерную прывязанасць да факта», пасіўнасць ці адсутнасць «абагульняючай думкі» і г. д. Тым не менш засталіся жыць і робяць добрую справу менавіта творы, напісаныя па закліку сэрца, па гарачых слядах падзей, замешаныя і пабудаваныя на нявыдуманых жыццёвых фактах. З пэўнай агаворкай гэта тычыцца і аповесці «Дабрасельцы», у якой, на думку некаторых крытыкаў гэтага твора, пісьменнік вельмі згусціў фарбы, не захаваў сумнавядомых «прапорцый». Калі ўжо гаварыць пра недахопы гэтай аповесці, дык яны не ў тым, што тут «пад адзін «дах» нагрувашчана занадта многа фактаў адной і той жа афарбоўкі—негатыўных», як сцвярджае І. Шамякін у прадмове да збору твораў, а ў тым, што пісьменнік не зірнуў у глыб гэтых фактаў, не асэнсаваў іх у шырокім грамадска-сацыяльным плане. Калі б гэта было зроблена, тады больш выразна праявіліся б і тыя тэндэнцыі, што прывялі ў аповесці да перамогі дабра над злом.

Вопыт буйных пісьменнікаў тым каштоўны, што ён павучальны ў кожным выпадку—і тады, калі пісьменніку спадарожнічае поспех, і тады, калі яго напаткае няўдача. Слабым месцам творчага метаду А. Кулакоўскага з'яўляецца, на наш погляд, прыглушанасць у ім аналітычнага пачатку. У сваіх творах Кулакоўскі адштурхоўваецца ад непасрэднага эмацыянальнага ўспрымання рэчаіснасці, і ў залежнасці ад таго, якія факты і карціны жыцця трапілі ў поле зроку ці былі адабраны з «запасніка» яго эмацыянальнай памяці, вызначаецца агульны каларыт твора. Эмоцый, відаць, не заўсёды дастаткова, каб напісаць добры твор.

Фармаванне А. Кулакоўскага як пісьменніка праходзіла, як вядома, у складаных умовах. Здаралася, у яго творах давалі знаць пра сябе недахопы, народжаныя «тэорыяй бесканфліктнасці», пад уплывам дагматычнай крытыкі пісьменнік часам збіваўся на ілюстрацыйнасць, адступаў ад уласцівага яго таленту кірунку. Аднак, да гонару Кулакоўскага, пачуццё сапраўднай мастацкасці, арыентацыя на праўду жыцця заўсёды бралі ў ім верх над літаратуршчынай, дагматычнымі канцэпцыямі.

Прырода мастацкай індывідуальнасці патрабуе вернасці яе творчым прынцыпам, няспыннага ўдасканалення майстэрства і развіцця таго лепшага, што закладзена ў гэтай індывідуальнасці. І якраз у тых творах, у якіх Кулакоўскі найбольш поўна рэалізуе ўнутраныя магчымасці свайго таленту, ён дасягае найбольшага поспеху, якраз гэтыя творы вызначаюцца мастацкай трываласцю.

Гэта ж бясспрэчна: беларускай прозе пашанцавала ў тым, што Кулакоўскі застаўся Кулакоўскім—пісьменнікам са сваім адметным творчым почыркам, сваім бачаннем свету, сваімі сімпатыямі і антыпатыямі, назіраннямі, перакананнямі і нават слабасцямі. Мабыць, мала каму з празаікаў даставалася ад літаратурных апекуноў і дарадчыкаў так, як Кулакоўскаму, за «традыцыйнасць формы», «бытапісальніцтва» і інш. Але вось выйшла аповесць «Нявестка», і ўсю творчасць пісьменніка як бы асвяціла новае святло. Выявілася, што быт—гэта тая стыхія, у якой аўтар адчувае сябе найбольш натуральна і вольна, што бытапісальніцтва і мастацкі паказ чалавека, яго псіхалогіі праз характэрныя падрабязнасці побыту (ісціна, якую проста няёмка паўтараць!)—не адно і тое ж. А. Кулакоўскі не капіруе быт, а пераасэнсоўвае яго адпаведным чынам, пераплаўляе ў новыя карціны шляхам адбору найбольш тыповага і змястоўнага. Побыт для яго—сродак і ўмова мастацкасці.

У дачыненні да нашай літаратуры аповесцю «Нявестка» А. Кулакоўскі, па сутнасці, адстояў аўтарытэт і паўнапраўнасць бытавой прозы, якую ў перыяд захаплення панарамнымі эпапеямі не вельмі шанавалі, пацвердзіў, услед за класікамі, магчымасць стварэння цікавых і змястоўных твораў на сучасным бытавым матэрыяле.

Між іншым, гэтую сваю прыхільнасць да бытавой мастацкай дэталі, да паказу чалавека ў звычайнай для яго будзённай стыхіі пісьменнік захоўвае ў нейкай меры нават у творах пра вайну («Расстаёмся ненадоўга», «Сустрэчы на ростанях», «Да ўсходу сонца»), дзе, здавалася б, больш дарэчы героіка-пафасны стыль.

Сабраныя разам творы А. Кулакоўскага—добрая школа майстэрства для маладых пісьменнікаў і навочнае сведчанне таго, што талент—гэта таксама праца. Нястомная, цяжкая, пакутлівая праца над словам, над сюжэтам, кампазіцыяй—літаральна над кожным мастацкім элементам твора. Не буду ўдавацца ў падрабязнасці гэтага пытання, паколькі яно заслугоўвае асобнага артыкула, а адзначу толькі адну асаблівасць мастацкага таленту А. Кулакоўскага, асабіста мне вельмі дарагую. Гэта ўменне пісьменніка да месца ўжыць гумар, сатыру, скрытую іронію, асабліва там, дзе паказваюцца адмоўныя бакі жыцця, негатыўныя персанажы. Звяртаючыся да такіх твораў, як «Сад», «Кватаранты», «Нявестка», «Дабрасельцы», раз-пораз задумваешся: ці не сатырычнымі характарамі, раскрытымі ў гэтых творах, забяспечаны ў значнай меры іх поспех у чытача? На жаль, у апошні час мы не адчуваем у яго, пісьменніка з такімі зайздроснымі патэнцыяльнымі магчымасцямі, ранейшага сатырычнага запалу, пяро А. Кулакоўскага як бы палагаднела.

Творчы шлях Аляксея Кулакоўскага ведае і ўздымы і спады. І, на жаль, не кожны твор гэтага пісьменніка «перакрывае» папярэднія, знаходзіцца на ўзроўні яго таленту. Гэта, відаць, усведамляе і сам пісьменнік і, вядома, не мірыцца з гэтым. Пошукі новай тэмы, новага слова, новых характараў, арганічнага зліцця эстэтычнага ідэалу з праўдай нашага часу, як пра тое сведчыць нядаўна надрукаваная новая аповесць пісьменніка «Дзе каму жыць», па-ранейшаму застаюцца важнай рысай яго пісьменніцкай натуры. І пакуль яны вядуцца, ад пісьменніка можна чакаць мастацкіх адкрыццяў, хвалюючых твораў пра нашага сучасніка—вялікага ў сваёй прастаце і простага ў сваёй веліччы.

# «ЗЯЛЁНЫ АГЕНЬЧЫК»

...Твар шафёра, з якім я ехаў на таксі, здаваўся мне знаёмым. «Дзе ж я бачыў яго?» — стараўся я прыпомніць. І раптам... Латвійскі горад — курорт Ліепая, фестываль мастацкай самадзейнасці... Сярод многіх калектываў краіны быў там і самадзейны эстрадны аркестр мінскіх шафёраў таксі «Зялёны агеньчык».

Станіслаў Барынаў ужо некалькі год іграе ў гэтым аркестры.

Дваццаць сем чалавек — шафёры, дыспетчары, аператары, слесары-рамонтнікі — у вольны ад работы час прыходзяць на рэпетыцыі. Хто яны?

Валянціна Камепева, салістка. Гэта яна па тэлефоне прымае заказы на таксі. Валянціна працуе аператарам.

Віктар Рыжанкоў і Леанід Кудраўцаў, саксафаністы. Яны абодва выхоўваліся ў музычным узводзе ў арміі. Пасля звальнення ў запас пачалі працаваць на аўтакамбінаце. Былі слесарамі, потым закончылі аўташколу. І вось зараз — шафёры.


Дыспетчар, салістка аркестра Людміла Гаўрыча.

Самы старэйшы ў «Зялёным агеньчыку» — Дзмітрый Хмялюк. Многа падзяк атрымаў ён ад пасажыраў за высокую культуру абслугі. Увогуле, пра кожнага з удзельнікаў аркестра можна расказаць нямала цікавага.

Вось хаця б пра Станіслава Барынава. Прывёз ён аднойчы трох чалавек у аэрапорт. Усю дарогу гаварылі пра сустрэчу з былымі баявымі сябрамі, шкадавалі, што не ўсіх пабачылі. Калі пасажыры пайшлі і ён павярнуў на стаянку, убачыў на сядзенні невялікі пакет. Кінуўся ў памяшканне аэрапорта, але не знайшоў іх. Не дапамагла і аб'ява па радыё. А ў пакеце былі фатаграфіі гадоў вайны, сучасныя здымкі, рэпрадукцыя партызанскай газеты.


Шафёр таксі Дзмітрый Хмялюк.


Аркестр мінскіх шафёраў таксі «Зялёны агеньчык».


Аўтаэлектрык, гітарыст Уладзімір Шапавалаў.

Вадзіцель паехаў да гасцініцы «Юбілейная», адкуль вёз пасажыраў, паказаў здымкі адміністратару, але і яна не дапамагла. Пабываў у гэты дзень Барынаў ва ўсіх гасцініцах Мінска, у матэлі. Ніхто і там яго пасажыраў не ведаў. На наступны дзень завітаў Станіслаў у музей Айчыннай вайны. Хадзіў па залах, разглядаў здымкі. На адным з іх убачыў чалавека, які быў падобны на аднаго з нядаўніх пасажыраў. Супрацоўнік музея даў яго адрас. У гэты ж вечар хлапец названіў у Кіеў...

І яшчэ некалькі прозвішчаў. Шафёр Валянцін Кузняцоў — саксафаніст. Электрык Уладзімір Шапавалаў—гітарыст, слесар Аляксандр Шалманаў — ударнік...

Тут на рэпетыцыі сустрэў я і дырэктара аўтакамбіната Ігара Васілевіча Словырэўскага. Ён многа ўвагі аддае аркестру: дапамагае падбіраць рэпертуар, клапоціцца аб інструментах, касцюмах...

Часта выязджае аркестр з канцэртамі ў розныя гарады рэспублікі. Выступаў «Зялёны агеньчык» перад шахцёрамі Салігорска, чыгуначнікамі Маладзечна, рыбакамі Нарачы...

Двойчы ўдзельнічаў калектыў ва ўсесаюзным конкурсе мастацкай самадзейнасці ў горадзе Ліепаі і займаў там другое месца. Не раз з поспехам выступаў на гарадскіх і рэспубліканскіх фестывалях.

Усім аркестрам паехалі летась таксісты-музыканты на сваім аўтобусе на адпачынак у Ялту. Завіталі там да сваіх калег у таксаматорны парк і ў часе абедзеннага перапынку далі ў цэху канцэрт. Цёпла сустрэлі ялцінскія шафёры і рамонтнікі сваіх мінскіх сяброў. Пасля канцэрта да музыкаў падышоў дырэктар таксапарка:

— Выдатны аркестр у вас. Не верыцца толькі, што вы шафёры...

Прыйшлося даказаць. Адзін, другі, трэці селі за руль. Паказалі, на што здольныя.

Расказ пра «Зялёны агеньчык» будзе не поўны, калі не назваць яшчэ аднаго ўлюбёнага ў музыку чалавека — вадзіцеля Леаніда Кагана. Гэта ён дзесяць год назад арганізаваў у таксапарку квартэт, які вырас потым у цэлы аркестр. З таго часу аддае Леанід «Зялёнаму агеньчыку» многа энергіі. На яго леглі ўсе арганізацыйныя справы самадзейнага калектыву. Акрамя ўсяго, Леанід і сам самадзейны артыст. Разам з брыгадзірам Анатолем Бондарам ён вядзе праграму.

У гэтым месяцы — роўна дзесяць год народнаму аркестру «Зялёны агеньчык»..

**М. БУРЫ.**

цявіць зусім новую для сябе і смелую задуму: сродкамі рэалістычнай сімволікі вобразна раскрыць змест радкоў маральнага кодэксу будаўнікоў камунізма: «Мір, праца, свабода, роўнасць, братэрства, шчасце ўсіх народаў». Скульптар звярнуўся да буйнамаштабнай і складанай па будове прасторавай кампазіцыі з шасці фігур, якія стаяць асобна, і гарэльефа. Па класічнай традыцыі фігуры амаль аголены. Асноўным выяўленчым сродкам становіцца пластыка цел. На пярэднім плане па задуме павінна была знаходзіцца жаночая фігура— сімвал міру. Па баках — дзве мужчынскія фігуры на каленях з апушчанымі мечамі. За імі — на адлегласці — фігура працаўніка, які сядзіць у роздуме: сімвал фізічнай і інтэлектуальнай працы. Сіметрычна па баках ад працаўніка дзве мужчынскія фігуры, аб'яднаныя сустрэчным рухам рук — сімвал роўнасці і братэрства. Замыкаючым звяном і фонам усёй групы павінен быў служыць тэматычны рэльеф з фігурамі, якія ўвасабляюць шчасце. Фотамантаж павялічанага эскізу і паказ рэальных людзей каля статуй выглядаў унушальна. Але ажыццёўленая рабочая мадэль экспанавалася ў непрадбачаных умовах і не давала патрэбнага ўяўлення аб задуме. Работа, на жаль, не завершана. Можа, варта скульптару праявіць творчую волю.

Наогул жа работа над аголенай фігурай у тэматычных кампазіцыях у беларускіх скульптараў пакуль яшчэ мела нямнога ўдалых завяршэнняў. І аб гэтым даводзіцца шкадаваць, таму, што без развіцця такога важнага жанру скульптура многае траціць.

Цяпер Васіль Палійчук вярнуўся да традыцыйных у яго творчасці кампазіцый на тэмы ваенных, партызанскіх будняў («Партызанская сям'я»), да тэмы дзяцінства і да партрэта.

Наведвальнікі выставак, відаць, добра памятаюць яго творы пра Леніна — «Ленін у Разліве», «Ленін перад байцамі Чырвонай Арміі, якія адпраўляюцца на польскі фронт», вялікі партрэт Леніна. У сааўтарстве з Заірам Азгурам, Анатолем Анікейчыкам і Андрэем Заспіцкім Васіль Палійчук выканаў велізарны партрэт правадыра для ВДНГ ў Мінску. А зараз у яго майстэрні стаяць гатовыя да завяршэння партрэты сучаснікаў — доктара філалагічных навук, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Бірылы, кандыдата медыцынскіх навук Ганчарыка і іншыя.

Кола інтарэсаў Палійчука было б акрэслена не поўна, калі б мы не ўпамянулі, як многа часу заняла ў яго работа над праектам коннага помніка генералу Льву Даватару для Віцебска, якую калегі Аляксея Глебава ўзяліся закончыць пасля смерці свайго старэйшага таварыша. Палійчуку нямала памагала ў рабоце яго даўняя любоў да коней. Наведваючы іпадромы, конныя заводы, ён накапіў патрэбныя назіранні і прадоўжыў справу Глебава. Некаторыя яго мадэлі вызначаюцца ўпэўненасцю выканання. Аднак ад мадэлі да помніка яшчэ немалы шлях і вынік яго нам яшчэ належыць убачыць.

Нарэшце, нельга не адзначыць і актыўнага ўдзелу Васіля Палійчука ў рэспубліканскіх і ўсесаюзных конкурсах на праекты мемарыяльных узвядзенняў, у тым ліку абаронцам Брэсцкай крэпасці (выконваўся з калектывам архітэктараў і іншых спецыялістаў), мемарыяльнага ансамбля па Маскоўскай шашы (калектыўны праект), помніка ў гонар баявой дружбы беларускіх і літоўскіх партызан, помніка ахвярам Курлоўскага расстрэлу. Па выніках аднаго з конкурсаў Васіль Палійчук уключаны ў склад аўтарскай групы для стварэння манумента дружбы на беларуска-літоўскай граніцы. Удала выкананы скульптарам помнікі воінам у Слуцку і ў Лагойскім раёне.

Карацей кажучы, дасягненні і творчыя планы Васіля Палійчука шырокія і разнастайныя.

Мы ўбачым многа новых цікавых работ скульптара.

**І. ЯЛАТАМЦАВА.**

# ПРА ШТО ДУМАЮЦЬ ДРЭВЫ







«...І ДРЭМЛЕ ціхутка, і снегам сыпучым адзета, як рызай, яна». Паэтычныя радкі Лермантава датычаць на гэты раз паўднёвай прыгажуні-пальмы. Незвычайная снежная зіма выдалася сёлета на Чарнаморскім узбярэжжы Каўказа. Пра што думаюць вечназялёныя дрэвы ў белым убранні? Напэўна ж, пра вясну і сонца, пра пяшчотную песню марскіх хваль.

А вось гэтае высахлае дрэва, бадай, старэй за дзівосную бухарскую вежу, ля якой яно стаіць. Яно было сведкам сяточных шэсцяў і войнаў, цудоўных рамёстваў і стракатых усходніх кірмашоў. Магчыма, пад калісьці зялёнымі шатамі адпачываў сам Хаджа Насрэдзін...

Вярба над Лепельскім возерам значна маладзейшая. І думы ў яе, напэўна, больш сучасныя. Можа, яна схілілася так нізка, каб убачыць чараду бялюткіх байдарак, што вылецяць на серабрыстую роўнядзь возера?

Гэтыя здымкі зроблены старшым рэдактарам маладзёжнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання Аляксандрам Чуланавым, нястомным вандроўнікам —першаразраднікам па водным, горна-пешаходным і лыжным турызме. Бадай, няма ў Савецкім Саюзе такога кутка, дзе б ён не пабываў. Перадача «Вецер вандраванняў», якую ён вядзе,— не толькі рэдакцыйнае даручэнне, але і страсць, прызванне. Тыя, хто ходзяць з ім у паходы, не рызыкнуць зламаць квітнеючы куст ці ссекчы жывое дрэўца. Улюбёны ў прыроду, ён «палюе» за прыгажосцю толькі з фота- і кінаапаратам, з якімі не раставаўся нават пры зімовым узыходжанні на Эльбрус. Кінастужкі і фотаздымкі А. Чуланава не раз бачаць тэлегледачы ў перадачах «Вецер вандраванняў».

М. ПАНІЧ.



## ХАТА

Гэтаму наведвальніку я хутка склаў заяву аб устанаўленні факту прыналежнасці працоўнай кніжкі. Сапраўднае яго прозвішча Губскі. У горадзе Мінску ён працаваў да вайны. У 1940 годзе ажаніўся. Жонку звалі Ірынай.

Хаваючыся ад немцаў у час вайны, змяніў прозвішча і стаў Пятровым.

Дзеці яго—Пятровы. Для людзей ён таксама Пятроў. І для сябе вырашыў—няхай будзе так. А гады ішлі. Аб пенсіі задумаўся. Праверыў Пятроў свой стаж, а ён на дзве часткі дзеліцца —Губскага і Пятрова.

Вось ён і прыехаў са Свярдлоўска ў Мінск, каб у судзе ўстанавіць, што Губскі і Пятроў адна і тая ж асоба.

— Хто ж пацвердзіць, што да вайны вы былі Губскім?

— Губская Ірына, мая першая жонка, нас разлучылі акалічнасці ваеннага часу, яна жыве тут у Мінску... Запішыце яе сведкай...

Справа аб устанаўленні факту была прызначана да слухання ў судзе Мінскага раёна. На судовае пасяджэнне з'явіліся Губскі Пётр, Губская Ірына.

Я сядзеў у гэтай жа зале, слухаў, як Пётр Губскі расказаў суду, для чаго яму неабходна ўстанавіць факт прыналежнасці працоўнай кніжкі. Потым запрасілі Губскую Ірыну. З пакоя сведкаў выйшла жанчына сярэдніх гадоў. Апранутая ў чорнае, са смуткам на твары, здавалася, гэта жанчына сабралася на пахаванне.

Суддзя запытаўся, што ёй вядома па справе Губскага.

— Якога Губскага? —здзіўлена запыталася Ірына.

— Хіба гэты чалавек вам незнаёмы?

— Не.

Суддзя няўцямна паглядзеў на засядацеляў. Мне здалося, што ён нават разгубіўся.

— Губскі Пётр... растлумачце...

Губскі ўстаў, паглядзеў на Ірыну, потым павярнуўся да суддзяў.

— Губская да вайны была маёй жонкай... Яна носіць маё прозвішча... Я—Губскі.

Суддзя зноў звярнуўся да сведкі.

— Вы пацвярджаеце гэта?

— Я яго не ведаю. Ён ніколі не быў маім мужам, разумееце, ніколі. Мой муж загінуў смерцю героя. Яго расстралялі немцы ў 1942 годзе. У газетах і лістоўках аб'явілі аб яго смерці. Хто ён такі? Хто даў яму права называцца маім мужам? Мой муж быў вышэйшы ростам, шырэйшы ў плячах. У яго былі блакітныя вочы... Што яму трэба?

Ірына заплакала. І плакала яна доўга. Суддзі запатрабавалі ад Губскага новых доказаў і адклалі справу.

— Дзіўная гісторыя... Такіх выпадкаў у нашай судовай практыцы не памятаю,—гаварыў суддзя засядацелям.

У мяне быў перапынак паміж судовымі пасяджэннямі. Я выйшаў у сквер. На адной з лавак убачыў Губскага. Ён быў задуменны і не звяртаў увагі на людзей. Я падышоў, прысеў побач.

— Вы не скажаце, Пётр Мікалаевіч, чаму ваша сведка не пацвердзіла, што вы Губскі?

— Не ведаю...—рэзка адказаў Губскі. Затым, крыху памарудзіўшы, запытаўся: — А вы ўпэўнены, што я Губскі?

— Я не сумняваюся ў гэтым.

— Ну, а сведка... загад каменданта аб расстрэле.

— Сведка, як і вы, забылася на адну дэталь. Простую лагічную дэталь. Вы, Губскі, былі ўпэўнены, што Ірына пацвердзіць вашы тлумачэнні. Упэўнены былі. Інакш вы шукалі б іншых сведкаў. Але мяне зараз цікавіць іншае. Чаму вашаму сведку выгадна сцвярджаць, што вы не вы. Што тоіцца за паказаннямі Ірыны Губскай? Вы да суда бачыліся з ёй?

— Не. Учора толькі хадзіў свой дом глядзець. Усё такі ж. Я яго сам пачынаў, а заканчваў з Ірынай. Незадоўга да вайны і сад пасадзіў. Разросся сад...

— Вы будавалі дом разам з Ірынай?

— Заканчваў. Яна вельмі хацела, каб у нас быў свой дом.

— Раскажыце, Пётр Мікалаевіч пра сябе... пра Ірыну...—папрасіў я Губскага і пачуў незвычайную гісторыю.

— Я ніколі яшчэ аб гэтым не расказваў... З Ірынай я пазнаёміўся ў 1940 годзе. Нічога не скажаш, была яна прыгожая. Нават вельмі... Хутка пажаніліся. А неўзабаве і наваселле згулялі. Хутка я зразумеў, што жоначка мая такая вялікая скнара, якіх свет не бачыў. Ну, а потым вайна пачалася. Калі немцы ў Мінск увайшлі, я быў цяжка хворы. Памятаю, як аднойчы падышла да мяне жонка і сказала:

— Пётр, у магазіне тваім (я да вайны загадваў магазінам), відаць, тое-сёе засталося. Ці не лепш да нас рэшткі перавезці, на чорны дзень прыдасца...

Праз тыдзень у пакой уварваліся афіцэр СС і салдаты.

— Губскі Пётр?

— Я.

— Паедзем...

— Ён хворы,—сказала Ірына.

— Хутка,—загадаў афіцэр.

Я не ведаў, што напярэдадні каля гарадскога возера быў знойдзены труп афіцэра СС. Пачаліся вобыскі, арышты... Нехта паказаў на мяне.

Нас было дванаццаць. Білі жахліва. Потым уначы павезлі на расстрэл.

— Апошні раз пытаюся?—крычаў гітлеравец.— Мы маўчалі.

Грымнулі стрэлы. Стогны, крыкі. Я ўпаў. Яшчэ стрэлы і цішыня. Не ведаю, праз колькі часу ачуняў. Паварушыў нагамі, рукамі, быццам цэлы. Папоўз агародамі. А вось і знаёмыя веснічкі.

### М. БАРАН

**ЗА ПЛЯЧЫМА** МіхаілаМіронавіча Барана — чвэрць стагоддзя адвакацкай практыкі. Ён спрабуе свае сілы і ў літаратуры. З'яўляецца сааўтарам п'есы «Палкоўнік неспакойнай службы», сцэнарыя мастацкага кінафільма «Чужое імя», тэлеп'есы «Адно толькі слова».

Пастукаў. Нейкі невыразны скрып. Зноў пастукаў.

— Хто?—пачуў голас Ірыны.

— Я... Пётр...

Дзверы прыадчыніліся.

— Ты жывы?.. Уцякай. Немцы даведаюцца, дом спаляць... Уцякай...

Гэта былі апошнія яе словы. Сілай зачыніла дзверы. Праз хвіліну адчынілася акно і на зямлю ўпала паліто.

Я пайшоў да Валі, з якой дружыў да вайны. Неўзабаве яна прынесла мне пашпарт на імя Пятрова, і мяне пераправілі ў партызанскі атрад.

... Мы зноў сустрэліся з Губскім у юрыдычнай кансультацыі, а потым у судзе, дзе разбіралася яго заява аб узнаўленні тэрмінаў іскавай даўнасці на раздзел домакарыстання.

Былі запрошаны новыя сведкі—партызаны, якія ведалі гісторыю Пятра і маглі засведчыць, што да вайны Пётр Губскі жыў па вуліцы Заліўной разам з Ірынай Губскай.

У прызначаны час з'явілася ў суд і Губская.

Убачыла ўсіх і адразу загаварыла інакш.

— Так, Губскі быў маім мужам. Але дзе ён быў усе гэтыя гады? Ці павінна я прызнаваць гэтага чалавека сваім мужам, калі ён уцёк ад жонкі.

Рашэнне суда было кароткае. Усе спрэчныя пытанні вырашаны ў карысць Губскага.

— Прызнаць права Губскага на палавіну домакарыстання па вуліцы Заліўной. Вам зразумела рашэнне?— звярнуўся суддзя да Губскага.

— Зразумела. Але мне не трэба палавіны домаўладання. У мяне ёсць кватэра, сям'я. Я прашу маю частку перадаць дзяржаве.

— Ён да смерці мяне давядзе,— закрычала Ірына.

Судовае пасяджэнне аб'явілі закрытым.

## РУДЗІЧ

— Вы памятаеце Рудзіча? — спытаў у мяне пракурор Саранцаў.

Я вельмі добра памятаў гэтага кліента. Злодзей-медзвяжатнік. Нешматлікія партнёры звалі яго «Прафесарам». Заўсёды элегантна апранаўся і ганарыўся сваімі тэхнічнымі ведамі. Яго тры разы судзілі за ўзлом сейфаў. Чацвёрты раз—за спробу.

— Адсталі. Тэхніка вельмі рушыла наперад,—растлумачыў Рудзіч следчаму.

У час суда старшыня даў яму апошняе слова.

— Ці патрэбна яно,—сказаў Рудзіч.—За ўсе гады ў вас столькі маіх спраў накапілася... Карацей, там усё сказана. А па-чалавечы кажучы, стары я стаў, ды і ў тэхніцы вельмі адстаў. Так што лічу сябе звольненым па непрыгоднасці. Апрача таго, хачу зрабіць вельмі сумную заяву. Злачынны свет драбнее не па днях, а па гадзінах, Органы, якія пра нас «клапоцяцца», у апошнія гады праяўляюць да нашага брата такую ўвагу, што гэта міжволі адбіваецца на маёй нервовай сістэме. Мера пакарання прынцыповага значэння для мяне зараз не мае. Які б ні быў прыгавор, я дзякую вам за ўвагу.

# НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ



баліць печань, і я сёння дрэнна ўспрымаю гумар.

Рудзіч замоўк.

— Дзе вы жывяце?

— Гасцініца «Юбілейная». Нумар люкс. Бронь МУС. Заходзьце, каньячком пачастую.

Саранцаў устаў, прайшоўся па кабінеце.

— У апошні час вы праяўляеце цікавасць да 18-й школы. Высочваеце вучняў. Што вы задумалі, Рудзіч?

— Вы вельмі хітры, грамадзянін пракурор. У 10 гадзін запрасілі, а праз 40 мінут захацелі, каб я прызнаўся. Хутка.

Можа на гэтым размова і закончылася б, калі б сакратар не паклала на стол паперу. Саранцаў уважліва яе прачытаў і пацяплелымі вачыма зірнуў на Рудзіча.

— Дык ты на заводзе працуеш?

— А што вы пра мяне наогул ведалі, грамадзянін пракурор? Так, што вы ведалі, апрача таго, што такога чысла, такога года Рудзіч узламаў сейф. Што асуджаны. А гэта ж толькі адзін бок маёй біяграфіі. А ці ведалі вы, што калі першы раз мяне судзілі, я быў жанаты, хоць па справе праходзіў халасцяком. Дзяўчынку не хацеў ганьбіць. Адбыў тэрмін. Вярнуўся. І зноў прыпух. Не ў час. Бо мы дзіця чакалі. І гэты тэрмін адбыў. Ад званка да званка. Прыйшоў дамоў, а жонка не пускае. «Сын у мяне расце,—гаворыць.—І я не хачу, каб ён меў такога бацьку».

Хутка зноў засыпаўся я. Ну, а потым рашыў завязаць. Пасля калоніі на завод паступіў. Добра зарабляю. А вось апошні час ад кашмараў пакутую. Як пачую, што недзе малалетку судзілі за крадзеж, за хуліганства, не магу супакоіцца. Усё думаю, а раптам на шляху майго малыша сустрэўся такі фраер, якім быў я. Красці навучыць. Падлюгам зробіць. Вось і прыходжу пад школу і праводжу свайго сына да самага дома. Ён жа мяне не ведае...

Калі пайшоў Рудзіч, Саранцаў пазваніў у яго цэх. Падышоў да тэлефона майстар.

— Рудзіч? Нічога дрэннага сказаць не магу. Стараецца. Толькі дзіўны крыху. Усё ў начную змену просіцца. Іншыя наадварот, а ён у начную... Дзівак.

Мы пераглянуліся. Мы ж ведалі, чаму Рудзіч просіцца ў начную змену.

## ВАР'ЯТ

У гэты дзень я прымаў наведвальнікаў у юрыдычнай кансультацыі.

Дзяжурства ўжо набліжалася да канца, калі я заўважыў праз шкляныя дзверы маладога чалавека, які неспакойна хадзіў па прыёмнай. Нарэшце, мы засталіся адны. Ён не спяшаючыся падышоў да стала, за якім я сядзеў, паклаў надрукаванае на машынцы рашэнне двухгадовай даўнасці:

— Мне трэба адмяніць рашэнне.

— Якое рашэнне?

— Там сказана, што я вар'ят.

Я пачаў чытаць рашэнне суда, у якім было сказана, што Быстроў Васіль Сямёнавіч звярнуўся ў суд з заявай аб разрыве шлюбу з Нікітчанка Галінай у сувязі з тым, што ён псіхічна хворы. У пацвярджэнне была прадстаўлена медыцынская даведка—сведчанне аб хваробе. Суд даў ім развод.

— Ваша просьба была задаволена, чаго ж вы хочаце?

— Я хачу быць нармальным чалавекам. Мне надакучыла хадзіць у вар'ятах.

— Даволі,—перапыніў я не ў меру гаваркога кліента.— Можа вам лепш звярнуцца да спецыяліста-псіхіятра?

— Вы таксама мяне лічыце ненармальным. Дык слухайце...

Васіль ужо займаўся на трэцім курсе інстытута, калі пазнаёміўся з Галяй. Яна таксама была студэнтка, толькі іншага інстытута. З таго часу Вася і Галя заўсёды былі разам. Аднойчы пасварыліся. З-за дробязі. Нагаварылі адзін аднаму нямала крыўдных слоў. Галя не прыходзіла. Васіль заходзіў да яе ў інстытут, чакаў канца заняткаў, праседжваў у скверы каля дома. Страціўшы надзею сустрэць яе, рызыкнуў зайсці да яе дамоў, хаця да тэтага ў доме Галі ніколі не быў. Дзверы адчыніў сівы вусаты мужчына. «Напэўна, бацька»,—падумаў Васіль.

— Каго вам?—не зусім ветліва запытаўся гаспадар.

— Галю.

— А хто вы такі?

— Мы з ёй дружым... Мяне завуць Вася...

— Раз дружыш, дык заходзь,—і запрасіў да стала.—Ну, што ж, за дружбу трэба выпіць,—сказаў ён, выцягваючы з буфета бутэльку гарэлкі.

Вася выпіў. Расказаў пра сябе. Гаспадар кватэры таксама расказаў пра сябе. Ён пятнаццаць гадоў вартаўніком на базе працуе і пенсію атрымлівае як інвалід вайны...

На гэты раз Васіль Галі не дачакаўся. Назаўтра сустрэў яе ў бібліятэцы. Яны памірыліся. У той вечар яны не расставаліся дапазна. Калі трэці раз апынуліся каля веснічак, Васіль сказаў:

— Заўтра тваім старым аб'яўляю, што мы пажаніліся. Вось толькі як быць з маёй маці... Яна ў нас у сям'і галоўнакамандуючая.

Назаўтра Васіль прыйшоў у Галін дом. Маці Галі заплакала, а вусаты вартаўнік дастаў бутэльку, разліў па чарках, чокнуўся і сказаў:

— З богам!

Праз некалькі дзён Вася пазваніў у Магілёў і аб'явіў маці аб сваім рашэнні, папрасіў прыехаць у нядзелю на маленькае вяселле. І Васіль і Галя былі супраць шумнага вяселля. «Галоўнакамандуючая», як жартам называлі яе ў сям'і і ў бальніцы, дзе яна працавала ўрачом, рэзка перапыніла размову, сказала, што ўсё гэта глупства і каб да яе прыезду ніякіх рашэнняў не прымалі.

У нядзелю прыехала маці. Яна выйшла з вагона і тут жа на пероне дапытала Васю: чым займаецца нявеста, хто бацькі, а потым аб'явіла:

— Вяселля не будзе!

— Але ж мы зарэгістраваліся,—з адчаем сказаў Вася.

— Не бяда. Бач, акруцілі хлопца. Наташа, дачка галоўнага хірурга, дзень і ноч аб ім думае, а ён з вартаўніком парадніцца хоча.

Да Галі Вася не прыйшоў.

— А потым мне прыслалі з Магілёва складзеную заяву аб разводзе і даведку, што я псіхічна хворы. Суд задаволіў маю просьбу і вынес рашэнне аб разводзе,—сумна сказаў мой кліент.

Прайшло два гады. Незадоўга да заканчэння інстытута Васіля выклікалі ў камісію па размеркаванні. Калі ўзрушаны ён зайшоў у пакой, яму здалося, што члены камісіі перашэптваюцца. Старшыня тут жа аб'явіў яму, што пуцёўку на работу ён атрымае пасля выздараўлення.

— Але я зусім здаровы. Гэта непаразуменне!—закрычаў Вася.

Накіравання яму не далі і вось ён прыйшоў у юрыдычную кансультацыю...

# ГЭТА—НАДЗЁННА

**Прапаганда ведаў па грамадзянскай абароне—надзённая і важная справа.**

**Ва ўстановах культуры Гомельшчыны за 9 месяцаў гэтага года па тэматыцы грамадзянскай абароны прачытана 812 лекцый і дакладаў, праведзена 659 гутарак, 147 чытацкіх канферэнцый, прадэманстравана 2832 кінафільмы.**

**Аддзел культуры Гомельскага раёна разам з дырэкцыяй кінасеткі і раённай арганізацыяй таварыства «Веды» распрацавалі план правядзення кіналекцый у калгасах і саўгасах па грамадзянскай абароне. За гэты год кіналекцыямі ахоплена больш як 8 тысяч чалавек.**

**У Хойніцкім раённым доме культуры функцыянуе пастаянны семінар «Клуб будучага воіна», у праграму якога побач з грамадскімі дысцыплінамі ўключаны таксама тэмы па грамадзянскай абароне.**

**Добра вядзецца прапаганда ваенных ведаў у Жыткавіцкім раёне. Тут у клубах рэгулярна праводзяцца тэматычныя вечары, на якіх выступаюць кіраўнікі калгасаў і саўгасаў па пытаннях абароны насельніцтва, гаспадарчых пабудоў, жывёлы, кармоў ад сродкаў ядзернай і бактэрыялагічнай зброі, арганізоўваюцца перасоўныя выстаўкі па гаспадарках раёна.**

**Установы культуры Лельчыцкага раёна сёлета прачыталі 73 лекцыі аб абароне насельніцтва ад зброі масавага паражэння.**

**Умела прапагандуюць грамадзянскую абарону перасоўныя аўтаклубы. У нашай вобласці іх 16. Яны сістэматычна выязджаюць у аддаленыя населенныя пункты з агітбрыгадамі, арганізоўваюць лекцыі, гутаркі, канцэрты і паказ кінафільмаў па грамадзянскай абароне.**

**Многа ўвагі надаюць прапагандзе грамадзянскай абароны бібліятэкі. Гомельская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна афарміла кніжную выстаўку «Гэта павінен ведаць кожны», якая знаёміць чытачоў з літаратурай аб ядзернай, хімічнай, бактэрыялагічнай зброі і сродках абароны насельніцтва. У абанементным аддзеле бібліятэкі выдзелены групы чытачоў па прафесіях і спецыяльнасцях, для якіх своечасова падбіраецца літаратура, складзена картатэка «Грамадзянская абарона СССР». Бібліятэка праводзіць семінары па пытаннях папулярызацыі літаратуры па грамадзянскай абароне сярод насельніцтва.**

**Работнікі Гомельскай гарадской цэнтральнай бібліятэкі імя Герцэна складаюць рэкамендацыйныя спісы літаратуры на тэмы «Што чытаць па грамадзянскай абароне».**

**Усе раённыя бібліятэкі маюць выстаўкі літаратуры па раздзелах «Сучасныя сродкі нападу», «Меры абароны ў зонах радыёактыўнага заражэння».**

**Немалаважную работу па прапагандзе ваенных ведаў праводзяць паркі і музеі. У Гомельскім і Мазырскім парках культуры і адпачынку работнікі штабаў грамадзянскай абароны, афіцэры запасу, удзельнікі Айчыннай вайны чытаюць цыклы лекцый, арганізоўваюцца выстаўкі, дэманструюцца кінафільмы з паказам сродкаў і спосабаў абароны ад ядзернай зброі.**

**У радзе музеяў экспануюцца матэрыялы, якія раскрываюць значэнне грамадзянскай абароны на сучасным этапе, паказваюць заняткі санітарных дружын, хімразведчыкаў, выратавальных аварыйных каманд.**

**Ю. ХМАРЫН,**
**інспектар абласнога ўпраўлення культуры.**

З ГІСТОРЫІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

# ПРЫПЫНАК У ЗЕМБІНЕ

## СТАРОНКІ ЖЫЦЦЯ ПІСЬМЕННІКА-НАШАНІЎЦА ЯЗЭПА ШПЭТА

Цяпер я ўжо не шкадую, што аўтобус сапсаваўся і ледзь дацягнуўся да Зембіна. Менавіта тут удалося мне адшукаць сляды забытага беларускага пісьменніка-нашаніўца Язэпа Шпэта, пра якога ва ўсіх нашых выданнях стаяла сумная заўвага: «біяграфічных звестак няма».

Калісьці Зембін быў гандлёвым мястэчкам з саматужнымі прыватнымі майстэрнямі і такімі ж прыватнымі крамкамі, дзе ўсё можна было купіць — ад хамута да селядца. Карчмар лёстачкамі вымаў душу селяніна, вымагаючы за кручок гарэлкі не адзін гарнец жыта.

Так думалася, у чаканні аўтобуса, пра мінулае Зембіна. А непадалёк адгэтуль, ля Студзянкі, — гістарычная пераправа Напалеона праз Бярэзіну. Яшчэ ўспомнілася, што казаў мне барысаўскі краязнаўца В. Самцэвіч: нібы ля будынка старой школы ў Зембіне ляжыць вялікі камень у памяць паўстання 1863 года. Захацелася паглядзець яго — часу хапала. Толькі вось зіма на двары, ці ўдасца адшукаць? Пайшоў у школу.

Вольная ад урокаў настаўніца расказала пра іншае — пра школьную карцінную галерэю. Скарбы мастацтва падаравала школе зямлячка — французская мастачка Надзея Пятроўна Лежэ: больш трох дзесяткаў карцін. Сярод іх ёсць копіі карцін яе мужа — французскага камуніста. Бацькоўскі край мастачка наведала не адна, а разам з даўнім сваім сябрам па сустрэчах у Парыжы, вядомым савецкім пісьменнікам Канстанцінам Сіманавым. Пісьменнік упадабаў гэты куток нашай зямлі, амаль штогод пасля таго прыязджае сюды. А ў школе—цэлая бібліятэчка ягоных кніг з аўтографамі.

У школьным раскладзе ўрокаў я ўбачыў прозвішча: В. І. Шпэт. Шпэт? Цікава. Спытаў:

— Хто ён?

— Былы настаўнік. Цяпер працуе ў мясцовай бальніцы. Гэта стары расклад.

— Як яго звалі?

— Вячаслаў Іосіфавіч.

Іосіфавіч? Можа, сын Язэпа Шпэта? Пайшоў у бальніцу. Тут, у рэгістратуры, сустрэўся з Кімай Іосіфаўнай Даражынскай, у дзявоцтве таксама Шпэт. Высветлілася, што бацька іх — сапраўды Язэп Шпэт. Яны — брат і сястра — расказалі мне пра бацьку, пра тое, што параўнальна нядаўна загінуў асабісты яго архіў. А там былі копіі яго апавяданняў, допісаў, артыкулаў з «Нашай нівы», «Беларуса», «Звязды», «Савецкай Беларусі» і інш. Загінулі таксама пісьмы ад Якуба Коласа, Змітрака Бядулі і іншых беларускіх пісьменнікаў. Шмат ягоных папер загінула ў час Вялікай Айчыннай вайны, у тым ліку гадавікі «Нашай нівы», рэдкія кнігі...

Нарадзіўся Язэп Геркуланавіч Шпэт у 1891 годзе ў Зембіне. Першапачатковую адукацыю атрымаў у сваім мястэчку, пазней вучыўся ў Вільні на майстра па малаку і масле. У час вучобы зблізіўся з рэдакцыяй «Нашай нівы». Пасля вучобы працаваў ў маёнтку Замошша ў нейкага пана Граковіча, потым — у маёнтку Свяніцкага. Пасля зноў была Вільня, вайсковая служба.

У гады Савецкай улады Я. Шпэт працаваў сакратаром Зембінскага суда, рахункаводам Плешчаніцкага райпрамгаса і Каменскага вучлясгаса, рахункаводам-статыстам у Барысаўскай МТС, лабарантам на Зембінскім масласырзаводзе, бухгалтарам у калгасе, арганізоўваў калгасы, займаўся раскулачваннем, аб чым пісаў у газетах «Звязда» і «Савецкая Беларусь».

У вольны час займаўся вышываннем і ткацтвам. Усе кашулі насіў абавязкова са сваёй арнаментаванай вышыўкай і падпяразваўся паясамі сваёй работы. Любіў маляваць.

Літаратурная творчасць пачалася ў часе вучобы ў Вільні. У дарэвалюцыйны час Я. Шпэт надрукаваў каля двух дзесяткаў апавяданняў: «Чары», «Разбагацеў», «Дарагія пекі», «Адукаваная кабыла», «Злічыла», «Пажар», «Выбары старшыні» і іншыя.

Язэп Шпэт — прадстаўнік масавай прозы, ён не падымаўся да ўзроўню прафесійнай літаратуры. Яго апавяданні цікавыя тым, што ў іх — кавалачак тагачаснага жыцця Барысаўшчыны і Лагойшчыны, а найбольш — свайго роднага Зембіна. Яго творы былі не выключэннем, а характэрнай з'явай у беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Досыць выразную характарыстыку твораў масавай прозы, у тым ліку і апавяданняў Я. Шпэта, дала «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры»: «Іх ідэйная накіраванасць і мастацкая своеасаблівасць знаходзіліся ў агульным рэчышчы развіцця празаічнай нацыянальнай культуры і ў пэўнай ступені выражалі заканамернасці гэтага развіцця. Масавая проза абапіралася на крыніцы народнай творчасці».

У 20-х гадах некаторыя творы Я. Шпэта друкаваліся ў хрэстаматыі «Роднае слова».

Памёр ён у 1955 годзе...

Канечне, след Я. Шпэта ў гісторыі роднай літаратуры не дужа прыкметны. Але ўсё ж згадаць імя яго варта.

**Г. КАХАНОЎСКІ,**
**намеснік дырэктара Мінскага абласнога краязнаўчага музея.**
г. Маладзечна.

# НЕ ЛЕЗЬ У БУТЭЛЬКУ...

**Гэты шчыры і ў вышэйшай ступені павучальны артыкул пра тое, ЯК, КАЛІ і НА ЧЫЕ творы пісаць рэцэнзіі, даслаў у рэдакцыю вядомы Аўдзей Самасей, з якім чытачы мелі прыемнасць пазнаёміцца на старонках «Вясёлай трасянкі». Прапануем яго вашай увазе.**

Пісаць рэцэнзіі — не жартачкі. Семярым паабяцаў — аднаму напішы. Бо крытык у літаратуры, як на полі бою: каб выйграць, яму і тактыку, і стратэгію ведаць трэба, вёрткім быць. Ёсць і ў мяне свае залатыя правілы.

Перш чым крытыкаваць, добранька падумай — каго ты збіраешся крытыкаваць. А то ж што атрымліваецца часам? Іншы маладзёнак ледзьве праклюнуўся, а ўжо, глядзіш, на ўвесь белы свет кукарэкае. Яму і тая кніжка не па душы, і тая не да спадобы, і Пятро Пятровіч нікчэмны празаік, і Іван Іванавіч да Пушкіна не дарос. А гэты ж Пятро Пятровіч, можа, рэдактар таўстога часопіса, а той Іван Іванавіч — яшчэ вышэй! А ён іх, нібы кацянят у малако, тыцкае, павучае. Ну, і... Абрэжуць крыльцы малойчыку — не закукарэкае болей.

Дык вось мая парада найпершая: не чапай літаратурныя аўтарытэты. І, хоць свярбяць рукі, цярпі! Цярпенне, цярпенне і яшчэ раз цярпенне! Беражы свой талент, не лезь у бутэльку. Тваё табе застанецца. Выйдзе, скажам, Пятро Пятровіч на пенсію, а Іван Іванавіч спячэцца на пасадзе (з кім не здараецца!), тады і крытыкуй сабе ад пуза! Дзесяць, дваццаць адмоўных рэцэнзій пішы пра іх творы... Ніякіх непрыемнасцей!

Цяпер, значыць, як лепш крытыкаваць? І наогул, можа, давайце мы не будзем ужываць гэта незразумелае грэчаскае слова «крытыка»? Зрэшты, што ў нас, сваіх гучных слоў не хапае? Ёсць, ёсць слоўцы — і мякенькія, і салодзенькія, самі ў рот, бы тыя варэнічкі, просяцца...

Вось бы і артыкулы ўсе такія — ні дзёрзкага, крыўдлівага слова, ні дакору! Дык я і мяркую сабе — усё ж гэты грэчаскі тэрмін «крытыка» трэба скасаваць. Раз і назаўсёды. Замяніць сваім. Будзем казаць, напрыклад, не «аддзел крытыкі», а «аддзел сяброўскага слова»... Цудоўна, га? Можна прыдумаць, канечне, што-небудзь яшчэ больш мяккае і пяшчотнае, але справа гэта ўжо маладзейшых — галовы ў іх, дзякуй богу, свежыя, разумныя.

Не буду хаваць ад вас, ёсць цяпераka пэўная думка — прынцыпова выяўляць недахопы ў мастацкіх творах, як кажуць, **аналізаваць.** (Цьфу, зноў грэчаскае слова!). Але навошта? Да чаго мы дакоцімся? Я яго кнігу расчыхвошчу, ён — маю, той — яшчэ чыю-небудзь. Гвалт, скандал! Так мы ўсе перасварымся, нервы перапсуем. А людзі ж і ў гадах сярод нас ёсць, да ціхенькага прызвычаіліся... Не, калі прыспічыла ўжо другому сказаць жорсткае слова пра маю новую кніжку, калі ласка, заходзь да мяне на кватэру, маралізуй. На такі выпадак і каньячок знойдзецца. Сядзем, пагутарым, спяём нават і — разыдземся добрымі сябрамі. Толькі не пішы ты на мяне абразы якой у часопіс... Заўсёды памятай мудрасць старажытных: сказанае — знікне, напісанае — застанецца...

Вось што я мяркую пра крытыку, браточкі мае. Не салодкі гэта хлеб, вядома. Але калі ля яе, крытыкі-матухны, з розумам — не надвядзе, а яшчэ нават — пракорміць!

**Аўдзей САМАСЕЙ.**



Зноў у «малако»...

Мал. А. САПЕТКІ па тэме А. ШАЎЦОВА.

**М. ЯДЛОВЕЦ**

## КРЫТЫКУ-РАЗГРАМІСТУ

**Ён крытык знаны...**
**Праўда, коўзкі.**
**Ля шчырых песень—мэтр і бог.**
**Глядзіць: каго б тут па-сяброўску**
**Сагнуць яшчэ ў бараннi рог!**

## СПРЭЧКА «ЭСТЭТА» З «УТЫЛІТАРЫСТАМ»

*«ЭСТЭТ»:*

**Мне свет, як сон ружовы, сніцца...**
**Пакіньце спраў людскую тлумнасць!**
**Ухвалім фліртаў таямніцы,**
**Руладаў ціхую «акругласць»...**

*«УТЫЛІТАРЫСТ»:*

**Чырыкайце свае рулады,**
**А мне па сэрцы—**
**гром «эстрады»,**
**Мне трэба тэмы-магістралі!**
**Няхай абрынуцца у зале**
**Авацый бурных вадаспады!**

*«ЭСТЭТ»:*

**Нашто мне вашы «магістралі»!**
**Мне па душы лепш —**
**пастаралі!**
**О, чуйце: зноўку граюць бомы,**
**І я лячу ў інтымным трансе,**
**На скрыдлах даўнішніх альбомаў**
**Кружуся ў стансе-выкрунтасе...**
**Як пахне леташняе лісце**
**Узбочын, завадзяў імшарных!**
**А вы—**
**паргразлі у карысці**
**Агітак, спраў утылітарных...**

*«УТЫЛІТАРЫСТ»:*

**Утылітарнасць для эстэта**
**Здавён-здаўна —**
**страшней кастэта!**
**Ды глянь, што дзеецца у свеце:**
**Напалм і голад...**
**Бітвы, бітвы...**
**Бунт паднявольных —**
**сейце, сейце,**
**А не салодкія малітвы!**

*ГОЛАС ЗБОКУ:*

**О, звадкі... Колькі марнай сілы!**
**А птах паэзіі—**
**ДВУХКРЫЛЫ!**

## *ЯК СТАЦЬ ПІСЬМЕННІКАМ*

Маскоўскі лектар Беркут у сваіх успамінах, што друкаваліся ў «Историческом вестнике», расказаў, як М. Гогаль раіў В. Салагубу спрабаваць свае сілы ў літаратуры.

— Неабходна набыць звычку, набіць руку. Вазьмі сабе за правіла пісаць штодня на працягу дзвюх-трох гадзін.

— Але што пісаць, калі нічога ў галаву не лезе?

— От так і пішы: «Нічога ў галаву не лезе». Заўтра што-небудзь дадасі яшчэ і гэтак далей. Наб'еш руку і станеш пісьменнікам. Так і я рабіў...



**Вельмі многа вады ў вашым рамане, калега.**

Мал. А. ШАЎЦОВА.

## З ВЕНГЕРСКАГА ГУМАРУ

Хлопчык з мамай ідзе па заапарку. Убачыўшы паўліна, ён крычыць:

— Мама, зірні! Курыца зацвіла!

□

— Мама, мне бацька сказаў, што мы паходзім ад малпаў. Гэта праўда?

— Не ведаю, сынок, але твой бацька ніколі не хацеў мяне пазнаёміць са сваёй сям'ёй.

□

— Мы можам давяраць твайму прыяцелю? Ён умее захоўваць таямніцу?

— Я думаю! Пяць год назад яму павысілі зарплату, а жонка не ведае да гэтага часу!

**Пятро РАБРО**

## СЛУШНАЯ ПАРАДА

**Адкрыта з трыбуны**
**Прызнаўся паэт,**
**Што нараджае**
**У муках санет.**

**— Дык кіньце пісаць вы! —**
**Пачулася ўраз. —**
**І вам лепей будзе,**
**І лепей для нас!**

Пераклаў з украінскай М. БАЗАРЭВІЧ.

**Лявон КУДЛА**

## А ЯНА СМЯЕЦЦА...

Зайшоў я неяк у «Саюздрук». У магазіне ніводнага пакупніка. Прадаўшчыца ўткнулася ў нейкі часопіс і рагоча да слёз.

— Дзяўчынка, — кажу, хоць гэтай дзяўчынцы, відаць, за сорак, — мне «Вячорку».

Ніякай увагі. Як бы мяне тут не было. Рагоча сабе і годзе.

Спачатку хацеў раззлавацца, а потым яе шчыры смех мяне развесяліў.

— Што там цікавага? — спытаў, калі прадаўшчыца, выціраючы вочы, паклала часопіс на прылавак.

— Гумарэска, вельмі смешная. Купіце часопіс і прачытайце.

Купіў, прабег вачыма па тэксце і мяне пачаў душыць смех.

— А што, праўда, смешная? — спытала прадаўшчыца.

— Вельмі, — адказаў я.

А сам рагачу... з прадаўшчыцы: «Што яна ўбачыла тут смешнага?»

## З АФАРЫЗМАЎ Г. К. ЛІХТЭНБЕРГА

□ *Хаця я ведаю, што вельмі многія рэцэнзенты не чытаюць кніг, якія яны так па-майстэрску рэцэнзуюць, я ўсё-такі не магу зразумець, што б яны страцілі, калі б усё ж прачыталі тую кнігу, якую павінны рэцэнзаваць.*

□ *Калі хто-небудзь кепска піша, клопат вялікі—няхай піша: ператварыцца ў асла яшчэ не самагубства.*

□ *Творык пры ўсёй сваёй таўшчыні такі пусты, што яго можна прыняць не за кнігу, а за папку для яе.*

**По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Л. Я. ПРОКША.



20 Індэкс 63856 АТ 02552